ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1964 г.:

**У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.**

**У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.**

**У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.**

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

Ў Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвертаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

## ЗЬМЕСТ

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XII ЛІСТАПАД-СЬНЕЖАНЬ № 87

РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»
ВІТАЕ ДАРАГІХ ЧЫТАЧОЎ, ПРЫЯЦЕЛЯЎ
І ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ - БЕЛАРУСАЎ
ЗЬ ВЯЛІКІМ СЬВЯТАМ ХРЫСТОВАГА РАЖСТВА.
ЖАДАЕ ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1965 ГОДУ!
КАБ БОГ ДАЎ У ГЭТЫМ ГОДЗЕ СВАБОДУ
НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ!

РЭДАКЦЫЯ І АДМІНІСТРАЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»
ВІНШУЕ
ДАРАГОГА ДАСТОЙНАГА
ЎЛАДЫКУ ЧЭСЛАВА
З СЛАЎНЫМ СЬВЯТАМ НАРАДЖЭНЬНЯ
— *8 сьнежня 1914—1964 г.* —
З 50-ці ГОДНІМ ЮБІЛЕЯМ
МНОГАЯ ЛЕТА!
І ЖАДАЕ НА ДАЎЖЭЙШЫЯ ГОДЫ ШЧАСЬЛІВАГА ЖЫЦЬЦЯ
І ПЛЁННАЕ ПРАЦЫ.

Адначасна шчыра дзякуе за супрацоўніцтва і помач
і просіць багаславенства на сваю далейшую працу.

# Голас Беларускага Біскупа на экумэнічным Саборы

**19 КАСТРЫЧНІКА 1964**

*Уступныя ўвагі*

14 верасьня 1964 г. пачалася III Сэсія Другога Ватыканскага Сабору. Калі хто сьлядзіць за працамі Сабору, дык хутка можа праканацца, што яны вызначаюцца пастырскаю руплівасьцю, шырокім духам экумэнізму і поўнаю свабодаю і сьмеласьцю ў дыскусіях адносна новых і цяжкіх праблемаў нашае эпохі, сярод якіх ёсьць патрэба злучэньня хрысьціян, супакой у сьвеце, атомная вайна, сям'я і яе розныя цяжкасьці.

Каб аблягчыць дыскусіі і залішне не зацягваць Сабору, ўстаноўлены наступны парадак: перш Камісіі прыгатаўляюць матар'ял да дыскусіі або схэмы. Ня гледзячы на тое, што схэмы падрыхтаваныя спэцыялістамі, доля іх на Саборы ніколі ня ёсьць пэўнай: яны заўсёды павінны прайсьці праз гарно дыскусіі і пасьля могуць быць прынятыя з папраўкамі, або нават і зусім адкінутыя, і нават разам з Камісіяй, што тую схэму прыгатавала.

У дыскусіях маюць права голасу прысутныя Біскупы і Генэралы Законаў. Нікому аднак не дазваляецца гаварыць больш дзесяць мінут. Прамова ў цэласьці або галоўны яе зьмест па-

вінна быць перададзена загадзя Генэральнаму Сакратару. Спісак жадаючых гаварыць ідзе на стол Модэратараў — чатырох кардыналаў, якія ад імя Папы кіруюць працамі Сабору: яны ў сваім часе просяць да мікрафону Айца Сабору.

Дзеля таго, што ў базыліцы сьв. Пятра ў часе генэральных паседжаньняў прысутнічае каля 4000 асобаў, адзіным спосабам паразуменьня ёсьць сыстэма галосьнікаў. Толькі заўдзячваючы навачаснай тэхніцы можа спакойна і спраўна адбывацца такога разьмеру Сабор, якім зьяўляецца Ватыканскі Другі.

...І вось дня 19 кастрычніка, каля гадз. 12, чутны голас Яго Эмінэнцыі Кардынала Якуба Леркаро, Архіепіскапа Болёніі, Модэратара чарговага паседжаньня: «Цяпер будзе гаварыць Яго Дастойнасьць Біскуп Марыямітанскі Чеслаў Сіповіч, Візытатар Беларусаў на Чужыне».

Ля мікрафону беларускі Біскуп з лацінскім тэкстам у руках.

*

*Чэсьцідастойныя Айцы Сабору!*

Дзеля таго, што Божы Провід суліў мне гэты гонар прамаўляць да Вас блізу апошнім на сяньняшнім паседжаньні, таму няхай мне будзе дазволеным у першую чаргу выявіць сваю думку адносна выказанага тут сяньня некатарымі з папярэдніх прамоўцаў.

Уважаю, што ў цяперашняй фазе саборных працаў ня выпадала-б, каб схэма «Аб Усходніх Цэрквах» — калі-б да таго прышло, што яе трэба было-б апрацоўваць нанава — была даручана вылучнай кампэтэнцыі «Сэкрэтар'яту Еднасьці».

Схэма «Аб Усходніх Цэрквах» дзеля шматлікіх прычын мне падабаецца.

У першую чаргу таму, што Ўсходнія Каталіцкія Цэрквы, аб якіх у ёй гутарка, паказаны не як інстытуцыі аджытыя, нерухомыя, да чаго яны схільныя ў сілу вернасьці сваім традыцыям, але як установы поўныя жыцьця, яны гатовыя на спатканьне патрэбаў нашых часаў.

Пахвальным такжа ў схэме ёсьць тое, што яна падкрэсьлівае патрэбу сувязі ўсіх партыкулярных Цэркваў. Такім вузлом яднаючым іх ёсьць «пастырскае кіравецтва Рымскага Іерарха, які паводля Божага закону ёсьць наступнікам Апостала Пятра ў кіраваньні ўсяе Царквы».

Гэтае пастырскае кіравецтва апошнімі часамі пахвальна і карысна выконвалася ад імя Папы Ўсходняю Кангрэгацыяй, якой лічу сваім абавязкам злажыць тут шчырую падзяку.

Варта такжа пры гэтай нагодзе ўспомніць праславутыя словы Папы Бэнэдыкта XV з яго граматы з 1917 г., праз якую была афармленая Кангрэгацыя з мэтай служэньня Ўсходнім Цэрквам:

«І так можна ўжо спадзявацца, што ня знойдуцца больш адзінкі, якія кідалі-б падазрэньне на лацціннікаў перад усходнікамі, бо-ж нават і таму, што ў Царкве Ісуса Хрыста — якая не зьяўляецца ані лацінскай, ані грэцкай, ані славянскай, але каталіцкай — няма розьніцы паміж яе дзяцьмі, якія — ці яны лацціннікі, грэкі, славяне ці якіх іншых нацыяў — усе яны займаюць аднолькавае месца пры гэтым Апостальскім Пасадзе». (AAS, т. IX, 1917, бач. 530).

Ці-ж можна сказаць прыгажэй, што тут паўтарыў Галава Рымскай Царквы, якая ёсьць Маткаю ўсіх Цэркваў?

Калі цяпер зьвернем нашу ўвагу на пэўныя драбніцы схэмы, дык асьмелімся адцеміць наступнае:

*1) Адносна самога Ўступу схэмы*

Дзеля ня зусім шчасьлівае рэдакцыі тэксту можа выглядаць, што Ўсходнія Цэрквы становяць ня зусім адно й тое самае, што ўся Каталіцкая Царква (г. зн. адзіную Хрыстовую Царкву).

Таму першапачатковы сказ Уступу прапаную зрэдагаваць наступна:

«Гэты Сьвяты Сабор вельмі цэніць абрад, традыцыі і правілы (дысцыпліну) хрысьціянскага жыцьця Ўсходніх Цэркваў. Яны слаўныя сваёй чэсьцідастойнаю старадаўнасьцю; яны данесьлі Апосталамі і Айцамі пераказаную традыцыю, якая — боска пераказаная — зьяўляецца непадзельным скарбам усяе Царквы».

*2) Аб патрэбе дзейнага апостальства дзеля аб'еднаньня хрысціян*

Агульныя правілы дзейнага апостальства, згодныя з духам нашых часаў, ёсьць пададзеныя ў схэме «Аб экумэнізьме». Хаця ў вельмі скарочанай форме, аднак ёсьць аб гэтым гутарка такжа і ў цяпер разгляданай схэме. Уважаю, што мы не павінны лішне баяцца паўтарэньня ў гэтай важнай справе, бо-ж праз дзейны й плённы апасталят можа зьдзейсьніцца аб'еднаньне ўсіх хрысьціян у адзінай Хрыстовай Царкве. Таму хай мне будзе дазволеным крыху даўжэй затрымацца над гэтаю тэмай.

Апасталят дзеля злучэньня Цэркваў у шмат чым розьніцца ад іншых катэгорыяў апасталяту, якія існуюць у Царкве. Нашым жаданьнем ёсьць, каб перадусім Усходнія Цэрквы, што знаходзяцца ў лучнасьці з Рымскім Пасадам, праводзілі такі апасталят.

Такога роду дзейнасьць праводзіцца:

а) праз малітву, б) праз студыі, в) праз згуртаваньні.

а) Аб патрэбе *малітвы* шмат гаварыць ня прыходзіцца, бо-ж яе вага ў апасталяце дзеля злучэньня хрысьціян ёсьць вырашальнай. Вялікі



*Віншую ўсіх Дарагіх Суродзічаў-Беларусаў з радасным СЬВЯТАМ НАРАДЖЭНЬНЯ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА.*

*Вітаю з Новым Годам 1965 — дай, Госпадзі Божа, усяго найлепшага Дарагім Братом нашым на выгнаньні і Наймілейшым Братом нашым на Бацькаўшчыне!*

*Ласка і Мір Госпада Нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца і Прысутнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі. Амінь.*

† Бп. ЧЭСЛАЎ

Апостал еднасьці Пій XI ў энцыкліцы „Ecclesiam Dei“ ў 1923 г. казаў: «Ёсьць праўдаю, што ўзгодненасьць усіх народаў у экумэнічнай еднасьці зьяўляецца ў першаю чаргу Божаю справай; яе мы можам здабываць пры дапамозе і пад апекай Божай: таму трэба пільна й шмат маліцца, ідучы ў сьлед за сьв. Іозафатам, які працуючы для еднасьці апіраўся перадусім на малітве». (AAS, т. XV, 1923, б. 581).

Да надпрыродных сьродкаў дзеля прыдбаньня еднасьці сярод хрысьціян належыць такжа заступніцтва Божае Маці (Theotokos), аб чым нажаль цяперашняя схэма замоўчвае.

б) На цяжкім шляху да еднасьці ляжыць нямала праблемаў, якія нас ня толькі дзеляць але і лучаць з братамі праваслаўнымі. Выявіць аднак іх згодна з праўдай магчыма толькі цераз паважныя *студыі* ўсходняе тэалёгіі, Айцоў Царквы (патролёгіі), абрадаў, кананічнага права і іншых прадметаў. Апошнімі часамі зроблена шмат у гэтым напрамку Найвышэйшымі Рымскімі Іерархамі, асабліва праз заснаваньне тут у Рыме Папскага Інстытуту Ўсходніх Навук.

в) Сярод згуртаваньняў, якія ад даўнейшага часу дзейна працуюць дзеля аб'еднаньня хрысьціян, нярэдка практыкуючы экумэнізм у сучасным яго разуменьні, трэба назваць натсупныя:

Аб'еднаньне сьв. Міколы Цудатворцы ў Італіі;

Каталіцкае Італійскае Аб'еднаньне для хрысьціянскага Ўсходу;

Згуртаваньне «Еднасьць» (Унітас);

Аб'еднаньне Сьвятых Кірыла і Мяфода, заснаванае яшчэ ў 1851 г.;

Каталіцкае Аб'еднаньне (Унітас Католіка) у краінах нямецкай мовы;

Аб'еднаньне Сьв. Яна Залатавуснага ў В. Брытаніі;

Заслуажнае Аб'еднаньне ў Злуч. Штатах Амэрыкі (Near East Welfare Assoc.) і іншыя.

Немагчыма такжа ня ўспомніць аб апасталяце, які праводзіцца Айцамі Бэнэдыктынцамі, Асумпцыяністамі, Марыянамі і іншымі законнікамі праз малітву, выдавецтвы кніжак і часапісаў.

Бяручы пад увагу ўсё вышэй сказанае, ветліва прашу, каб у разгляданай цяпер намі схэме былі зробленыя наступныя папраўкі:

1) Там, дзе ёсьць гутарка аб малітве, трэба каб была ўспомненая Божая Маці.

2) А там, дзе ўспамінаецца аб дзейнасьці дзеля злучэньня хрысьціянаў, трэба, каб быў паложаны адпаведны націск на студыі і на выдатную дзейнасьць розных аб'еднаньняў.

У канцы дакінем яшчэ пару слоў аб значэньні Каталіцкіх Усходніх Цэркваў дзеля здабыцьця еднасьці.

Успомненым Цэрквам, ганебнымі прасьледваньнямі даведзеным да малое колькасьці сваіх вернікаў, робіцца закід нейкага прозэлітызму. Падобны закід можна пачуць нават з вуснаў каталікоў, што шукаючы новых шляхоў паеднаньня, пагарджаюць мінуўшчынай.

Сяньня ўсе мы тут кіраваныя Сьвятым Духам шукаемо лепшага і мы, каталікі ўсходняга абраду, ёсьць перакананыя, што наш удзел у злучэньні хрысьціян мае вырашальнае значэньне.

Маю гонар успомніць тут асобу Мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага і яго сьвятога брата, Эгзарха Леаніда Фёдарава, Эгзарха Антона Неманцэвіча, Архімандрытаў Фабіяна Абрантовіча і Андрэя Цікоту, якія праз сваё жыцьцё і мучаніцтва далі прыклад запраўднага апостальства. Усе яны, сьветлай памяці мужы, належылі да г. зв. уніяцкай Царквы.

*Чэслаў Сіповіч*

Бп. тыт. Марыямітанскі

Ап. Візытатар Беларусаў на Чужыне



*(Marian House)*

# Беларусы ў Грэцкай калегіі

Адным з найбольш балючых пытаньняў для Каталіцкай Царквы ўсходняга абраду было ўзгадаваньне сьвятароў на Беларусі і Ўкраіне пасьля Берасьцейскай Вуніі ў 1596 г. Хаця тады не бракавала адзінак з высокай культураю, аднак інтэлектуальны ўзровень большай часткі сьвятароў, асабліва сьвецкіх, быў вельмі нізкі. Нажаль гэтае пытаньне ніколі не знайшло задавальняючай разьвязкі. Напаткаўшыся на вялікія цяжкасьці пры спробах паднясеньня ўзроўню сьвецкага духавенства, царкоўныя ўлады накіравалі свае высілкі ў напрамку вытварэньня інтэлектуальнай эліты сярод манахаў базыльянскага чыну, у чыіх руках, асабліва пасьля рэформы ў 1617 г., было практычна сканцэнтраванае кіравецтва Вуніяцкай Царквою. Пры Мітрапаліце Руцкім (1614-1637) асабліва набрала моцы акцыя высылкі маладых манахаў-студэнтаў у вышэйшыя духоўныя навучальныя ўстановы ў Эўропе. Найбольш ведамымі такімі ўстановамі былі езуіцкія калегіі у Браўнсбэргу, Празе, Вене, Аломуцу, а таксама ў Кракаве і Вільні. Не абыходзілася тут і без цяжкасьцяў. Вуніяцкім Мітрапалітам няраз прыходзілася жаліцца, што рэктары вышэй успомненых установаў ня хочуць прымаць «рускіх» студэнтаў, або што дрэнна з імі абыходзяцца.[1] Найгоршымі былі езуіцкія калегіі ў Вялікім Княстве Літоўскім, г. зн. на Беларусі. У 1667 г. Мітрапаліт Календа (1665-1674) пісаў ў Рым, што ў езуіцкіх калегіях на Беларусі ў камэдыях высьмейваецца ўсходні абрад, што зьяўляецца прычынай скандалу сярод праваслаўных.[2]

Установай, якая найбольш адказвала патрэбам Царквы на Беларусі ў тым часе, была без сумлеву Грэцкая Калегія[3] ў Рыме. Аб гэтай калегіі пісалася ўжо раней у «Божым Шляхам». Дзеля гэтага тут нам трэба толькі прыпомніць самыя важныя факты. Заснаваная ў 1577 г. Папаю Рыгорам XIII, калегія мела на мэце даць магчымасьць для грэцкай моладзі здабыць асьвету ў каталіцкім асяродзьдзі. Хутка аднак туды знайшлі дарогу каталікі ўсходняга абраду розных нацыянальнасьцяў і калегія ператварылася ў духоўную сэмінарыю. Кіраўніцтва калегіяй было ў руках езуітаў ад 1591 да 1773 г., за выняткам кароткага перапынку 1604-1622 г. Хоць кіраўнікі былі лацінскага абраду, аднак вучні былі ўсходнікамі і ўсходні абрад захоўваўся больш або менш дакладна ў калегіі праз цэлы час яе існаваньня.

Беларусы ў Калегіі паявіліся ў канцы 16-га стагодзьдзя. У 1596 г. мы бачым там Якіма Марахоўскага, будучага япіскапа Уладзімірскага і Берасьцейскага (1613-1631). У 1599 г. прыбыў туды з Браўнсбэргу Язэп Вэльямін Руцкі. Тады ён быў яшчэ сьвецкім чалавекам і лацінскага абраду, які ён прыняў, пакінуўшы кальвінізм. Ён прыняў усходні абрад на жаданьне Папы Клімэнта VIII. Ніхто тады ня думаў, што гэты малады чалавек будзе ў адзін дзень вялікім мітрапалітам.

Сапраўдная беларуская эра ў Грэцкай Калегіі пачалася ў 1615 г., калі Папа Павал V, на просьбу Мітрапаліта Руцкага, прызнаў для «рускіх» студэнтаў у Калегіі 4 месцы.[4]

Гэты лік быў павялічаны да 6 ў 1623 г.[5]

Сам Руцкі пакладаў вялікія надзеі на Грэцкую Калегію. У сваім пісьме да рэктара Калегіі ў 1623 г. ён піша: «Адносна маёй Русі сьцьвярджаю, што яна будзе мець вялікую помач з гэтага месца (г. зн. з Грэцкай калегіі)».[6] Трэба таксама адцеміць, што Руцкі стараўся пасылаць у Калегію ня толькі манахаў, але таксама і сьвецкіх. У пісьме да Адрыяна Падбярэскага, тады вучня Калегіі, з дня 17-га кастрычніка 1623 г. ён кажа: «Я радуюся, што ёсьць месца для шасьці ў Калегіі, але з братоў (г. зн. манахаў) мы ня маем нікога такога, якога-б хацеў а. Рэктар. Дык папрасіце новага Пратэктара, каб прыняў двух сьвецкіх, і мы-б заўсёды мелі некалькі з знатных родаў, якія некалі былі рускімі, і будуць рускімі ізноў, хоць цяпер яны лацінькікі».[7] Адносна-ж навукі, дык Руцкі жадае, каб ягоныя студэнты вывучалі ня толькі філязофію і багаслоўе, але каб вярталіся дамоў з добрымі ведамі грэцкай і лацінскай моваў і гуманістычных навук:[8] Ня ўсе аднак мітрапаліты былі тэй самай думкі, што Руцкі. Мітрапаліт Календа спачатку згадзіўся, каб ягоныя студэнты вучыліся грэцкай мовы.[9] У другім месцы ён аднак скардзіцца, што рускія студэнты ня хочуць ехаць у Грэцкую Калегію, бо там іх прымушаюць студыяваць грэцкую мову, якая ёсьць «зусім бескарыснай у той частцы сьвету (г. зн. на Беларусі»).[10] Наагул гэты Мітрапаліт жаліцца, што ўлады Калегіі дрэнна адносяцца да «рускіх студэнтаў, так што тыя самі ня хочуць там

---

1 Acta S. C. de Propaganda Fide Ecclesiam Catholicam Ucrainae et Bielarussiae spectantia, Vol. II, Romae, b. 13.

2 Epistolae Metropolitarum Kioviensium Catholicorum, Romae 1956, b. 271; Acta ... Vol. II, b. 13.

3 А. Н., Грэцкая Калегія ў Рыме і Беларусы, Божым Шляхам Но. 58, бач. 11-13; Но. 59, бач. 7-8; Парыж 1954.

4 Documenta Pontificum Romanorum Historiam Ucrainae illustrantia, Vol. I, Romae 1953, b. 356.

5 Acta ... Vo. I., Romae 1953, b. 11, 19.

6 Epistolae Josephi Velamin Rutskyj, Romae 1956, b. 81.

7 Ibid., b. 95.

8 Ibid., b. 82.

9 Epistolae Metropolitarum ... b. 279.

10 Acta . . Vol. II, b. 27.

аставацца і іншых адмаўляюць, каб туды ня ехалі.[11] Тым ня менш ён і ягоныя наступнікі дамагаюцца права пасылаць туды сваіх студэнтаў.[12] Цікавая думка Якуба Сушы, япіскапа Холмскага (1652-1685), адносна Грэцкай Калегіі. Паводля яго, «вучні ўзгадаваныя ў Грэцкай Калегіі прыносяць мала карысьці для Каталіцкай рэлігіі».[13]



*Грэцкая калегія і царква Сьв. Атаназа з XVI стаг. у Рыме*

Ня гледзячы аднак на гэтыя дробныя непаразуменьні, Грэцкая Калегія ганарылася сваімі «рускімі» студэнтамі. У рукапіснай гісторыі Грэцкай Калегіі, якая знайходзіцца ў архіве гэтай калегіі,[14] памешчаны жыцьцяпісы наступных «рускіх» быўшых вучняў: Язэп Руцкі, Якім Марахоўскі, Нікіфар Зарэнскі, Рафаіл Корсак, Адрыян Падбярэскі, Пахом Аранскі, Андрэй Злоты-Кісьнінскі, Аляксей Дубовік, Нікіфар Ласоўскі, Якуб Аранскі, Габрыель Календа, Піліп Баравік, Марцін Белазёр, Цыпрыян Жахоўскі, Сымон Цыпрыяновіч, Пахом Агілевіч, Іван Малахоўскі, Лявон Заленскі, Сьцяпан Мартышкевіч. Ня менш месца прысьвячае «рускім» студэнтам і Родота ў сваім творы «Аб грэцкім абрадзе ў Італіі».[15]

Паколькі ўкраінскія епархіі прыступілі канчатково да Вуніі толькі ў канцы 17-га стаг., праз першых сто год пераважае ў Вуніяцкай царкве беларускі элемэнт. Гэта адбіваецца таксама на складзе «рускіх» студэнтаў у Грэцкай Калегіі. Ніжэй падаецца сьпісак беларусаў, якія вучыліся у Калегіі ў часе ад 1621 да 1796 г. Гэты сьпісак узяты з 13-га і 14-га томаў архіву Грэцкай Калегіі. Том 14-ты ёсьць каталёгам студэнтаў калегіі за час 1621-1730, а том 14-ты за час 1731-1803. Наагул за гэты час у калегіі было 107 «рускіх студэнтаў. З гэтага ліку прынамсь 59 былі беларусамі, з якіх 45 прыпадала на першы пярыяд 1621-1730. Украінцаў у гэтым часе было 31 (10 ў першым пэрыядзе). Акрамя гэтага было 10 палякаў і «прусакоў» (гэтыя апошнія з Вармінскай епархіі), якія відавочна прынялі ўсходні абрад, адзін маскаль з Цьверы і адзін курляндзец. Пяць іншых, чыя нацыянальнасьць азначаная проста «рутэнус», могуць быць або беларусамі або украінцамі, хоць хутчэй гэтымі апошнімі.

Дарэчы тут было-б затрымацца крыху на значэньні лацінскіх словаў Russia (Русь), Ruthenus (рускі). У часе які нас цікавіць (г. зн. у 16-18 стаг.), слова Russia азначала тэрыторыю, якая прыблізна саўпадае з тэрыторыяй сяньняшняй Беларусі і Ўкраіны. Жыхары гэтай тэрыторыі называліся Rutheni. Цяперашняя Расея называлася тады Moskovia (Маскоўшчына), а яе жыхары Moschi (маскалі). Бароніус між іншым ставіць пытаньне, ці маскалі таксама зьяўляюцца рускімі і дае на яго дадатні адказ.[16] Факт пастаноўкі такога пытаньня ёсьць вельмі цікавым. Слова Russia дзеля азначэньня Расеі (Маскоўшчыны) пачало ўжывацца толькі ў 18-тым стаг. і ўвяло путаніцу, ад якой мы яшчэ церпім да гэтага часу.

Такім чынам словы Russia, Ruthenus маглі азначаць, як Беларусь, так і Ўкраіну і іхных жыхароў. Беларусы аднак мелі сваю собскую дзяржаву ў форме Вялікага Княства Літоўскага, і дзеля гэтага вышэй успомненыя словы ўжываліся вельмі рэдка дзеля акрэсьленьня іхняй нацыянальнасьці. Нармальна беларус быў Lithuanus (ліцьвін), або ex Lithuania (з Літвы), або ex Magno Ducatu Lithuaniae (з Вялікага Княства Літоўскага). Калі-ж і ўжывалася слова Ruthenus,

---

[11] Acta... Vol. II, b. 27; Epistolae Metropolitarum... b. 271.

[12] Epistolae Metropolitarum... b. 264 & 269; Acta... Vol. II, b. 84.

[13] Acta... Vol. I, b. 317.

[14] Historia Collegii Graecorum de Urbe. Гэтая гісторыя зьяўляецца цяпер 9-тым томам архіву Грэцкай калегіі. Яе напісаў праўдападобна італьянскі езуіт Джузэппэ Вольпі, які памёр у 1746 г., прабыўшы ў калегіі 24 гады.

[15] Pietro Rodota: „Dell' Origine, progresso e stato presente del Rito Greco in Italia, osservato dai Greci, Monaci Basiliani e Albanesi“. Vol. III, Roma 1758-63.

[16] Caes. Baronius, „De Ruthenis ad Communionem Sedis Apostolicae receptis monumentum“, Annales Ecclesiae, Vol. VII, Appendix, Romae 1596.



дык да яго дадавалася назва мясцовасьці, адкуль паходзіць, напр. Ruthenus, Polocensis (рускі з Полацка). Між іншым ўжо ў тым часе, хоць досыць рэдка, спатыкаюцца назовы Ruthenus Albus (беларус) і Russia Alba (Беларусь). Звычайна яны адносяцца да паўночна-ўсходняй часткі сяньняшняй Беларусі.

Словы Ruthenus, ex Russia (з Русі), ex Palatinatu Russia (з Рускага ваяводзтва) ужываліся ў практыцы перадусім у адносінах да ўкраінцаў, якія ня мелі сваей дзяржавы. Нярэдка аднак украінцаў называлі проста палякамі, паколькі Украіна была тады часткаю польскай дзяржавы.[17]

Слова Ruthenus ужывалася таксама і ў рэлігійным сэнсе дзеля азначэньня каталікоў усходня-славянскага абраду незалежна ад нацыянальнасьці. Такім чынам паляк, маскаль ці прусак быў «Monachus Ruthenus» (рускі манах) нараўне зь беларусам ці ўкраінцам.[18]

Перад тым, чым даць сьпісак усіх беларускіх студэнтаў у каталёгу, трэба сказаць пару слоў аб тых, якіх няма, г. зн. аб тых, якія вучыліся ў калегіі перад 1621 г. Акрамя вышэй успомненых Марахоўскага і Руцкага, тут трэба ўспомніць Лявона Крэўзу-Жэвускага, Антона (Атаназія) Сяляву і Марціна Трызну. Крэўза-Жэвускі, паводле вестак у Гісторыі Грэцкай Калегіі, прыбыў туды хутка пасьля Руцкага, хоць дакладнай даты не падаецца. Пасьля ён быў архіепіскапам Смаленскім (1626-1639). Сялява ўступіў у калегію ў 1616 г. Сялява быў пасьля архіепіскапам Полацкім (1624-1655) і мітрапалітам (1641-1655).

Трызна прыбыў у Калегію хутка пасьля Крэўзы.[19] Ён праўдападобна быў сьвецкім у тым часе. Пасьля ён прыняў лацінскі абрад і быў вікарным япіскапам Віленскага Архіепіскапа.

У каталёгу вучняў, выняткі з якога даюцца ніжэй, ёсьць наступныя рубрыкі: Nomen (прозьвішча), Parentes (бацькі), Patria (Бацькаўшчына), Ingressus (дата ўступу), aetas (век), studia (студыі), ordines (духоўны чын), gradus in litteris (навуковыя ступені), Discessus (дата выезду), Quid insigne post discessum (што рабіў пасьля выезду).

Аўтар спадзяецца, што ніжэй паданыя выпіскі спрычыняцца да лепшага пазнаньня мала дасьледаванага пэрыяду нашай царкоўнай гісторыі, а таксама да выясьненьня нашага гістарычнага нацыянальнага назову.

*А. Н.*

---

[17] Вось некалькі запісаў украінцаў у каталёгу Грэцкай Калегіі:

Josapphat Dedul, Monacus Basilianus Ruthenus; Polonus ex Podoliaae;

Basilius Jagodzinski, Monachus Basilianus Ruthenus ex palatinatu Russiae;

Nicephorus Szepticki, ex palatinatu Russiae;
Alipius Fidrycki, Monachus Ruthenus S. Basilii; Wolhynia;
(Archivum Collegii graecorum de Urbe, Vol. 13).

[18] Вось некалькі прыкладаў ужываньня слова «рускі» у рэлігійным значэньні:

Eustachius Wienczek, Monachus Ruthenus Ordinis S. Basilii; ex Silesia;

Adrianus Kossakovski, Monachus Basilianus Ruthenus; Polonus ex diocesi Varmiensi;

Theodosius Rogoski, Monachus Ruthenus; Moschus ex urbe Tveri.
(Archivium Coll. Graec. Vol. 14).

[19] Cf. Historia Collegii Graecorum de Urbe.

## СЬПІСАК БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ У ГРЭЦКАЙ КАЛЕГІІ У РЫМЕ Ў ЧАСЕ 1621—1796-7.

### Вынятқі з Каталёгу Студэнтаў Грэцкай Калегіі за час 1621—1730. (Архіў Грэцкай Калегіі, Том 14).

1. ADRIANUS PODBERESKI Ordinis S. ti Basilii; filius D. Alexii et D. Anna Orska; Ruthenus; Ingressus: 1621; aetas: an. 25; Studia: Pilos. a. 3; erat sacerdos; Discessus: 1624 ex valetitudine.

АДРЫЯН ПАДБЯРЭЗКІ. Быў хворы, праўдападобна на сухоты, і памёр у 1624 г. па дарозе з Рыму на бацькаўшчыну. Мітрапаліт Руцкі пакладаў на яго вялікія надзеі і рыхтаваў яго сабе на вікарнага япіскапа.

2. RAPHAEL KORSAK Ordinis Sti Basilii; filius Domini Simoni et Cat. a; Ruthenus; Ingressus: 1621; aetas: an. 20; Studia: Theol. III; Discessus: 1624; Post discessum: Metropolita totius Russiae.
РАФАЛ КОРСАК. З старой знатнай беларускай сям'і з Полаччыны. Бацькі яго былі кальвіністамі, а пасьля сталі каталікамі лацінскага абраду. Вучыўся ў езуіцкіх школах у Вільні, Празе і Браўнсбэргу. У 1620 г. уступае ў Базыльянскі Ордзен. Ад 1626 г. Корсак зьяўляецца вікарным япіскапам Мітрапаліта Руцкага, а па сьмерці гэтага апошняга — мітрапалітам (1637-1641). Памёр у 1641 г. ў Рыме.

3. ANDREAS SLOTI, Monac.s S. Basilii; filius D. Joannis et Sophiae Prosounae; Peorscensis in Lithuania; Ingresus: 1624; aetas: an. 25; Studia: Theologia; sacerdos.
АНДРЭЙ ЗЛОТЫ-КВАСЬНІНСКІ, архіепіскап Смаленскі (1640-1654), а пасьля акупацыі Смаленску Маскалямі — япіскап Пінскі і Тураўскі (1654-1665).

4. ALEXIUS DUBOUICI, Monac.s S. Basilii; fil. D. Ignatii et Annae Bargicounae; Vilnensis e Lithuania; Ingressus: 1624; aetas: an. 19; Studia: Rhetorica, Philosophia 3; Post discessum: Archimandrita Vilnensis.

5. ADAMUS COPEZ; filius D. Philonii et D. Elisabetha Creptouiciouna; Ruthenus; Ingressus: 1628; an. 18; Studia: Rhet. Philos, 3, Theol. 4.
АДАМ КОПЕЦ, праўдападобна пляменьнік Мітрапаліта Руцкага.

6. PHILO TISCKIEUIZ, Ordinis S. Basilii Monac.s; fil D. Josephi et Barbara Pazuona; Ruthenus; Ingressus in Collegium: 1626; an. 23; Studia: Rhet. Philos. 3, Theol. 1; Diaconus; Discessit 1631.

7. NICEPHORUS LOSOSCHI, Monachus Ruth.; filius Stanislai et Theodorae Osinski; Policensis; Ingressus: 1627; an. 23; Studia: Philos. 3, Theol. 4; Sacerdos.

8. PHILIPPUS BOROUIUS, Monachus Ruthenus; filius Eustachii et Theodorae; Lithuanus; Ingressus: 1633; annor. 27; Studia: Physicae, Theol. 3; Sacerdos.
ПІЛІП БАРОВІК быў пракуратарам Базыльянскага Ордзену ў Рыме (1640-1651).

9. JOSEPHUS ISACOUICIUS; filius Lucae et Axeniae; Lithuanus; Ingressus: 1633; annor. 26; Studia: Physicae, Theol. 4; Post discessum: obiit.

10. EUSTACHIUS CORSACH; filius Jo. et Christinae Bezounae (?); Ruthenus Novogrodensis; Ingressus 1634; annor. 15; Studia: Gram. 1.

11. NICOLAUS CORSACH; filius Andreae et Catharinae Niemschiadae (?); Ruthenus Polociensis; Ingressus 1634; annor. 16; Studia: Gram. 1.
ЯЎСТАХ і МІКОЛА КОРСАКІ былі пляменьнікамі Рафала Корсака.

12. ZACHARIUS ILKOUSKI, Monachus S. Basilii; filius Joannis et Mariae; Lithuanus ex districtu Slonimiensi; Ingressus: 1640; annorum 30; Studia: Theol. 3; Sacerdos.

13. GABRIEL KOLENDA, Monachus Ruthenus, Sacerdos; filius Joannis et Mariae; patria: Lithuania, provinciae Vilnensis ac districtus; Ingressuss: 1636; annorum 30; Studia: Theol. 3; Post Discessum: Archiepiscopus totius Russiae.
ГАБРЫЕЛЬ КАЛЕНДА. З старой знатнай беларускай сям'і. Перад прыездам у Грэцкую Калегію вучыўся у Браўнсбэргу (1627-1630) і Вене (1633-1635), дзе быў ужо сьвятаром. Архіепіскап Полацкі у 1655 і Мітрапаліт ў 1666. Памёр ў 1674 г.

14. CLEMENS SCIUISCHI, Monach. Ruthenus, Diaconus; filius Joannis et Catharinae; ex Lithuania districtus Brestensis; Ingressus: 1636; annor. 21; Studia: Philos. 3, Theol. Mor. 1; Discessit e collegio adversae valetitudinis causa; obiit Venetiis paulo post descessum.

15. CHRISTOPHORUS MILNASZEUIUS, Monachus S. Basilii Ruthenus; filius Martini et Anatoliae Albouikounae; ex urbe Grodna in Lithuania; Ingressus: 1644; annor. 27; Studia: Theol. 2; Sacerdos; Discessit revocatus a suo metropolita 1646.

16. GREGORIUS BIENCHOUIUS, Monachus Ruthenus; filius Petri et Dorotheae Otechiski (?); ex diocesi Vilnensi in Lithuania; Ingressus: 1645; natus 1916, annr. 27; Diaconus.

17. PACHOMIUS OHILEUIUS, Monachus Ruthenus; filius Gregorii et Reginae Maslanczanskae; ex Minsco in Russia Alba; Ingressus: 1645; natus 1624, annor. 22; Diaconus; Discessit absoluta Theologia et doctoratu laurea accepta 1652; Post Discessum: Generalis sui Ordinis.
ПАХОМ АГІЛЕВІЧ, Протаархімандрыт Базыльянскага Ордзену (1675-1679).

18. MARTIANUS BIALOZIOR, Monachus Ruthenus; filius Stanislaii et Annae Bialozior; ex Lithuania; Ingressus: 1653; ann. 28; Studia: Theologiae; Sacerdos; Discessit 1655 (?) absolutis studiis.
МАРТЫЯН БЕЛАЗЁР, япіскап Пінскі і Тураўскі (1666-1697), архіепіскап Полацкі (1697-1707).

19. HIERONIMUS BOHDANOUICZ, Monachus Ruthenus; filius Thomae Samuelis et Dorothae Hercikounae; ex Magno Ducatu Lithuaniae; Ingressus: 1658; annorum 26; studuit Theologiae; 1659 Sacerdos; Discessit 1660 obtenta facultate ob malam valetitudinem.

20. SIMEON CYPRIANOUICZ, Monachus Ruthenus, filius Joannis et Marinae Jackieuiczounae; ex Magno Ducatu Lithuaniae; Ingressus: 1658; annorum 24; studet Logicae; Insignitus est ordine Diaconatus et sacerdotii. Absolutis Philosophiae et Theologiae studiis discessit.

21. CYPRIANUS ZOCHOUSKI, Monachus Ruthenus; filius Alexandri Zochouski et Annae Mogilnickae; ex Ducatu Polocensi, Ruthenus Albus; Ingressus: 1658; annor. 23; Insignitus est ordine Diaconatus et Sacerdotii. Philosophiae et Theologiae Doctor insignis; Absolutis Philosophiae et Sac. Theologiae studiis discessit 1664; Post discessum: Archiepiscopus totius Russiae.
ЦЫПРЫЯН ЖАХОЎСКІ, архіепіскап Полацкі і Мітрапаліт (1674-1693).

22. ATHANASIUS BALEWICZ, Monachus Ruthenus Ordini S. Basilii; filius Basilii Balewicz et Reginae Renterouae; ex Palatinatu Brestensi; Ingressus: 1658; annor. 26; Studuit Logicae, Physicae, Metaph.; Insignitus Ordine Diaconatus; Discessit in patriam.

23. BENEDICTUS MICHNIEWICZ, Monachus Ruthenus Ordinis S. Basilii; filius Caroli Michien et Mariae Milescounae; ex Palatinatu Polocensi; Ingressus: 1665; an. 27; Studet Logicae et... Metaph.; Sacerdos; Discessit reversurus in Poloniam.

24. SAMUEL SMOGORZEWSKI, Ruthenus Ordinis S. Basilii; Lithuanus; Ingressus: 1668; annor. 24; Studia: Physicus, postea studuit S. Theologiae per tres annos; Sacerdos; Discessit revocatus a suis superioribus; Mortuus est in itinere Varsaviis dum Roma rediret in patriam.

25. JOACHIMUS KUSSELIUS, Monachus Ruthenus S. Basilii Magni; Vilnensis; filius Stephani Kusselii et Annae Dorofieounae; Ingressus: 1673; annorum 25; Studia: 1 anno S. Theologiae 2, 3, 4; Sacerdos; Doctor iam in Philosophia et postea in Theologia suscepta laurea in Collegio 1677 privatim; Discessit revocatus a suis superioribus post absoluta... et Theologia.

26. CYRILLUS SZYPILLO-EFIMACH, Monachus Ruthenus S. Basilii; ex Palatinatu Polocensi in Lithuania; filius Stanislai et Helenae Andruszkiewiczounae; Ingressus: 1676; Studet Logicae et Philosophiae et Theologiae; Venit iam Sacerdos; Habuit lauream Doctoratus in Philosophia et Theologia; Discessit 1684.

27. AUGUSTINUS LODZIATA, Monachus Ruthenus S. Basilii; ex Palatinatu Polocensi in Lithuania; filius Casimiri et Barbarae Koninskae; Ingressus: 1676; annorum 21; Studet Logicae et Philosophiae et Theologiae; Venit iam Diaconus; Laurea donatus philosophica et theologica; Discessit 1683 magnis dignus laudibus ob insignam pietatem, modestiam, doctrinam et prudentiam; Post discessum: factus est episcopus Chelmensis.
АЎГУСТЫН (АЛЯКСАНДАР) ЛАДЗЯТА, япіскап Холмскі (1685-1691).

28. SIMEON OHURCEWICZ, Monachus S. Basilii Magni Ruthenus; Vilnensis; filius Joannis Ohurcewicz et Marinae Mikuleszowna-Skuminowna; Ingressus: 1677; annor. 21, natus 1654; Studia: Philosophia et Theologia quam ingeniose absolvit duobus annis; Sacerdos; Creatus Doctor in Philosophia et Theologia; Discessit cum optima fama ingenii et indolis; Post discessum: fuit... Protoarchimandrita.
СЫМОН АГУРЦЭВІЧ, Протоархімандрыт Базыльянскага Ордэну (1690-1698).

29. MARIANUS IUANOUICZ, Monachus Ruthenus S. Basilii; Lithuanus Vilnensis; filius Athanasii et Barbarae Ihnatouiczounae; Ingressus: 1683; annor. 19; Studia: Logicus, Theologus anni 2; Sacerdotii 1688; Laurea Doctoratus Philosophiae et Theologiae, remanit Romae protoprocurator sui ordinis.

30. JOSAPHAT HAUTOROWICZ, Monachus Ruthenus S. Basilii; ex Palatinatu Nouogrodensi in Lithuania; filius Andreae Hautorowicz et Elisabeth Witelmoyciownae; Ingressus: 1685; ann. 26; Studet Theologiae; Erat Sacerdos; Doctor iam in Philosophia; Post discessum: mox Archiepiscopus Smolenscensis.
ЯАЗАПАТ ГАЎТАРОВІЧ, архіепіскап Смаленскі (1697).

31. MELETIUS DOROSZKOWSKI, Ruthenus ex Palatinatu Polocensi; filius Samuelis Doroszkowski et Catherinae; Ingressus: 1687; annorum 24, natus 1663; Studia: Theologia anni 3; Sacerdos.

32. JOANNES SZPERKOWICZ, Lithuanus Vilnensis; filius Eustachii Szperkowicz et Sophiae Ohurcewiczounae; Ingressus: 1687; annorum 19; Studuit Physicae, Metaphysicae, 3 annos Theologiae; Sacerdos.

33. GERMANUS KOZACZENKO, Monachus; Lithuanus; Ingressus: 1698; Theologus 2-di anni; Diaconus ac Sacerdotii ordinibus initiatus in... Templo ritu graeco; Laurea Doctorali tum Philosophiae tum Theologiae insignitus; Discessit 1702 post absoluta Theologiae studia; post discessum: obiit.

34. ARSENIUS CIBULSKI, Monachus Ruthenus; Vilnensis; filius Andreae Cibulski et matris Annae Kozerkownae; Ingressus: 1700; annorum 29; Studet Phys., Metaphys., et Theol.; Sacerdos; Accepit lauream doctoratus in Philosophia et Theologia; Discessit 1705.

35. LAURENTIUS SOKOLINSKI, Monachus Ruthenus; ex Magno Ducatu Lithuaniae in Alba Russia ex Castro Susza; filius Flaviani Casimiri Drucki Sokolinski et Mariannae Kuzminskae; Ingressus: 1704; annorum 23, natus 1681; Studia: P. i. anni Theologiae; Diaconus et deinde sacerdos...; Discessit 1708; Post discessum: Archiepiscopus Smolenscensis.
ЛАЎРЫН ДРУЦКІ-САКАЛІНСКІ. З старой знатнай беларускай сям'і. Архіепіскап Смаленскі (1709-1727).

36. THEOPHILUS GODEBSKI, Monachus Ruthenus; ex districtu Pinscensi in Russia Nigra; filius Basilii Godebski et Elisabethae Piasecka; Ingressus: 1706; annorum 21; Studia: Logicae et Philosophiae..; Theologiae Morali; Diaconus; Discessit 1710; Post discessum Episcopus Pinscensis.

ТЭАФІЛЬ ГАДЭБСКІ, япіскап Пінскі і Тураўскі (1720-1730), япіскап Уладзімірскі і Берасьцейскі (1730-1756).

37. BENEDICTUS TRULEVICZ, Monachus Ruthenus; filius Joannis et Marinae; Patria: Mienscum, Palatinatu Miescensi in Russia Alba; Ingressus: 1706; annorum 26; Studet Logicae, absolvit studia omnia Philosophiae et Theologiae; Sacerdos. Factus Procurator sui Ordinis in Curia Romana.
БЭНАДЫКТ ТРУЛЬЦЭВІЧ, Пракуратар Базыльянаў у Рыме (1712-1726).

38. SPIRIDION JACHIMOWICZ, Monachus Ruthenus; Patria: Cobrinus in Lithuania; ex patre Stephano et matre Martha; Ingressus: 1713; annorum 22; Studet Rhetoricae; Sacerdos 1716; Discessit 1720.

39. ISIDORUS LESZCZYNSKI, Monachus Ruthenus S. Basilii; Lithuanus ex Palatinatu Brestensi; filius Casimiri et Stephaniae Frycinski; Ingressus: 1714; annorum 22; Studet Physicae, absolvit Theologiam; Sacerdos.

40. CORNILIUS LEBESKI, hoc anno convictor, postea alumnus; Lithuanus; Monachus S. Basilii Ruthenus; filius... et Annae Lebeski; Ingressus: 1716; annorum 27, natus est 17 Martii 1689; Sacerdos; Post discessum: Episcopus Vladimiriensis et Protoarchimandrita Ordinis.
КАРНІЛ ЛАБЭЦКІ, япіскап Уладзімірскі і Берасьцейскі (1729).

41. DAMIANUS CUDOUSKI, Monachus Ruthenus; ex Lithuania; natus ex Eustachio et Justyna; Ingressus: 1720; aetatis suae 23; Studet Physicae et Metaphysicae et Theologicae duobus annis. Defendit totam Philosophiam publice cum laude. Mortuus est in Lithuania apud suos monachos.

42. ARTHEMIUS PIOTROVICZ, ex Lithuania; Monachus Ruthenus; ex Joanne et Theophila; Ingressus: 1720; aetatis suae 21; Studet Physicae, Metaphysicae et Theologiae 4 annis; Defendit totam Theologiam cum laude.

43. LAURENTIUS BIELECKI; ex Lithuania; Monachus Ruthenus; Ingressus: 1720; aetatis suae 24; Studet Logicae, Physicae; Sacerdos; Discessit ob malam valetitudinem.

44. MAXIMILIAN ZAWADZKI (?), Monachus Ruthenus S. Basilii; ex Palatinatu Brestensi; Parentes: Petrus et Elisabetha Zasiutynska; Ingressus: 1725; annor. 25; Studet Metaphysicae et Theologiae.

45. SYLVESTER SZEWIAROWSKI; Lithuanus; Parentes: Joannes Szewiarowski et Helena Moskiewiczowna; Ingressus: 1730; anni 22 natus; Studet Theologiae.

## Выняткі з Каталёгу студэнтаў Грэцкай Калегіі за час 1731—1803 (Архіў Грэцкай Калегіі, Том 13).

1. JASON SMOGORZEWSKI, Monachus Basil. Ruthenus; ex Lithuania, Districtus Wolkowyszczensis; Parentes: Carolus Smogorzewski, Rosalia de Tyszkiewiczowa; Ingressus: 1734; Studet Logicae; 1740 suscepit Praegbyteratum; Discessit 1740 sub fine 3 anni Theologiae adversa valetitudine; Post discessum: Archiepiscopus Polocensis et totius Russiae Metropolita.
ЯСОН ЮНОЩА СМАГАЖЭЎСКІ, архіепіскап Полацкі (1762-1780), Мітрапаліт (1780-1786).

2. THEODOSIUS ROSTOCKI; Lithuanus; Parentes: Casimirus, Anna; Ingressus: 1750; natus a. 1724; Studia: Theologiae; Ordines: Diaconus, Sacerdos; Post discessum: coadiutor Metropolitae totius Russiae.
ХВЯДОС РАСТОЦКІ, Мітрапаліт (1787-1805).

3. GEDEON HORBACKI; ex Russia Alba; Parentes: Antonius, Cristina; Ingressus: 1750; natus a. 1724; Studia: Theologiae; Discessit, postea Episcopus Pinscensis et Turoviensis.
ГЕДЕОН ГАРБАЦКІ, япіскап Пінскі і Тураўскі (1769-1784).

4. PORPHYRUS WAZYNSKI, Monachus; ex Lithuania; Parentes: Casimirus, Victoria; Ingressus: 1754; natus a. 1732; Studet Theologiae; Diaconus; Discessit 1758 absolutis studiis; Post discessum Episcopus Chelmensis.
ПАРФІРЫ ВАЖЫНСКІ, япіскап Холмскі (1790-1804).

5. LEO RODZIEWICZ; ex Alba Russia; Parentes: Damianus, Teresia; Ingressus: 1754; annorum 25; Studet Theologiae; Sacerdos factus. Satisfecit omnino superioribus.

6. PARTHENIUS TERLECKI, Monachus S. Basilii; Patria: Palatinatus Polocensis; Parentes: Dominicus, Marianna Gotycka; Ingressus: 1758; natus 1731, annorum 27; Studet Theologicae; Sacerdos. Optime se gessit et sui superioribus satisfecit.

7. JOSAPHAT WERESZCZAKA, Monachus S. Basilii; ex Palatinatu Brestensi; Parentes: Felicianus, Francisca; Ingressus: 1758; natus 1761; Studia: Physicae; Sacerdos 1761; Discessit dum 3 Theologiae anno studeret revocatus a suis superioribus. Ingenio et diligentia mediocri. In costumis optime satisfecit.

8. VINCENTIUS ZIELONKA, Ruthenus; ex Palatinatu Trocensi; Parentes: Antonius et Susanna Geysztorouna; Ingressus: 1763; natus 1742; Studet Theologiae; Discesit 1766 absolutis studiis. Optime se gessit.
ВІНЦЭСЬ ЗЯЛЁНКА, пракуратар Базыльянаў у Рыме (1780-1789).

9. FLORIANUS (?) HREBNICKI, Monachus Ruthenus; ex Alba Russia ex Palatinatu Polocensi; Parentes: Franciscus, Eleonora; Ingressus: 1765; annor. 20, natus 1746; Studet Metaphysicae; Laura doctorali insignitus est in Collegio Romano. Bene se gessit... profecit in studiis, satisfecit superioribus.

10. INOCENTIUS KNIEZINSKI, Monachus Ruthenus Professus; Lithuanus; Parentes: Joannes, Marianna; Ingressus: 1773; natus 1752; Theologus; Insignitus fuit omnibus ordinibus usque ad Praebyteriatum ab Archiepiscopo Joachimo de Joannis; Doctorali laurea insignitus est in Coll. de Propaganda Fide; 1777 discessit in suo... in Urbe aliquot dies commoratus est. Optimo pollet ingenio, religiosis moribus satisfecit.

11. AUGUSTINUS TOMASZEWSKI, Monachus Alumnus Ruthenus; Lithuanus, Mscislavia; Pater Nicolaus, mater Anna; Ingressus: 1780; annorum 22; Theologus; Monachus Ordinis S. Basilii Congr. in Ruthenorum; Laurea doctorali insignitus; Discessit a Collegio rediturus post paucos menses in suam provinciam. Plurima studuit... disciplinae sese accomodavit.

12. JOSEPHUS NOVAKOUSKI, Monachus S. Basilii Magni Congregationis Ruthenae; Lithuanus, Zyrovice in Districtu Slonimiensi; Parentes: Joannes Philippus, Caterina; Ingressus: 1785; annorum 25; Theologus; Sacerdos. Plurimum studuit sed fere nihil domesticae disciplinae sese accomodavit.

13. CAESAREUS KAMIENSKI, Monachus Congr.is Ruthenae; Lithuanus in Palatinatu Wilnensi in loco Raczuny; Pater Franciscus, mater Catharina; Ingressus: 1789; annorum 23; Theologus; Discessit 1791 rediturus post 15 dies in suam provinciam. Optimis moribus atque ingenio praeditus, non sine optimo probitate testimonio.

14. AMBROSIUS ROSTOCKI, Monachus Ruthenus; Lithuanus ex civitate Slonim; Parentes: Gregorius, Justyna; Ingressus: 1792; natus 1772; Logicus; Post confirmationis sacramentum ad omnes ordines usque ad praesbyteratum promotus fuit; Doctorali laurea in Philosophia ac Theologia insignitus est in Coll.o Romano; absolutis studiis, non sine optimo tum doctrinae tum probitatis testimonio discessit.

**Студэнты Грэцкай Калегіі, якія маглі быць Беларускага паходжаньня**

1. NICOLAUS CORSAC, Monachus S. Basilii Ruthenus; filius Michaelis et Reginae Sokolinschi; ex Polonia; Ingressus: 1644; annor. 29; Studia: Theol. ann. 2; Sacerdos; Discessit revocatus a suo Metropolita.
2. INNOCENTIUS PIECHOWSKI, Monachus Ruthenus; Ruthenus; Ingressus: 1698; Theologus 3 anni; Diaconus; Discessit 1700.

(Архіў Грэцкай Калегіі, Том 14).

3. LUCIDUS JEDRZEJOWSKI; Polonus, Osmiana; Ex patre Petro et matre Anna; Ingressus: 1777; Theologus; Sacerdos; Laureatus in Philosophia et Theologia in Collegio Urbano de Propaganda Fide; Post Discessum: Philosophiae et Mathematicae Professor in scholis S.B.M. Vladimiriensibus.

(Архіў Грэцкай Калегіі, Том 13).

---

# ФОНД РАЗБУДОВЫ

## ШКОЛЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў ЛЁНДАНЕ

ГЭТЫМ ЗЬВЯРТАЕМСЯ ДА ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ З ГАРАЧАЙ ПРОСЬБАЙ ДАПАМАГЧЫ САБРАЦЬ ГРОШЫ НА РАЗБУДОВУ НАШАЙ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ Ў ЛЁНДАНЕ.

МАЕМО ЎЖО БОЛЬШ КАНДЫДАТАЎ ЧЫМ МЕСЦА, ДЗЕЛЯ ТАГО НЕАБХОДНА ПРЫСТУПІЦЬ ЧЫМ ХУТЧЭЙ ДА ПАБУДОВЫ НОВАГА ДОМУ.

ПАТРЭБА НАМ САБРАЦЬ 30.000 АНГ. ФУНТАЎ. АДПАВЕДНЫ ПЛЯЦ ДЛЯ ШКОЛЫ Ў НАС УЖО ЁСЬЦЬ.

БРАТЫ! ВЯЛІКАЯ МЭТА ПЕРАД НАМІ: ДАПАМАЖЭЦЕ!

Усе ахвяры просім прысылаць на адрас Кіраўніка школы:

**Rev. J. Hermanovič, Marian House, Holden Avenue , London. N. 12, England.**

*† ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ*
*Бп. тыт. Марыямітанскі*
*Апостальскі Візытатар Беларусаў*

*а. Леў Гарошка, Рэктар*

*а. Язэп Гэрмановіч*

*а. Аляксандар Надсон*

# Папа Ян XXIII і яго апошняя энцыкліка

*(Заканчэньне)*

ЧАСТКА II

## АДНОСІНЫ ПАМІЖ ЛЮДЗЬМІ І ГРАМАДЗКАЙ УЛАДАЙ. АЎТАРЫТЭТ

Сумеснае жыццё ня можа абыйсьціся бяз *улады* і *аўтарытэту,* які павінен абясьпечыць агульны парадак і дабро грамады.

Такая ўлада, як сьведчыць Сьв. Апостал Павал, паходзіць ад Бога: «Бо няма ўлады як не ад Бога». Сьв. Іоан Златаусты тлумачыць гэта так: «Ня кажны ўрадовец можа пахваліцца, што яго паставіў Бог, але ёсьць факт, што існуе аўтарытэт і што ёсьць загадчыкі і падлеглыя і гэты факт ня выходзіць выпадкова, але ад установы Божага Правіду».

Людзі — паводле самой прыроды — істоты *сацыяльныя:* яны мусяць мець уладу, якая будзе дбаць аб парадак і справядлівасьць, бо інакш ня было-б людзкога грамадзтва, але было-б стада зьвяроў. Значыць, гэты закон прыроды ёсьць уложаны ў чалавечую натуру і праз гэта самае ёсьць Законам Божым.

Аўтарытэт не зьяўляецца безкантрольнаю сілай, бо трэба кіраваць людзьмі згодна з розумам і сумленьнем. Чалавек мае з натуры недатыкальныя абавязкі і правы, дык усякая тыранія, дэспатызм, гвалт, тэрор, абапёртыя на сіле, зьяўляюцца бязпраўем, ці гэта будзе суд, адміністрацыя ці нават дзяржава. Усякая ўлада моцная толькі правам, а ня гвалтам, пагрозамі, страхам, ці хоць-бы спакушала нагародамі і маніла ласкай, або фаварызавала частку грамадзян. А дзеля таго, што такі поўны парадак, абапёрты на розуме, ня можа заіснаваць бяз Бога, то ўсякая ўлада будзе мець моц і павагу толькі ў моцы і законах самога Бога.

Людзкі аўтарытэт ёсьць моцны аўтарытэтам вышэйшым, значыць, Божым: бяз гэтага ён ня мае іншага спосабу як прымушаць вонкава — сілай. Ніякі іншы аўтарытэт, апрача Бога, ня мае такіх доказаў, каб прымусіць чалавека да паслушэнства праз ягонае *сумленьне,* бо ўладу над сумленьнем мае адзін Бог. Вось-жа тыя ўлады, якія адкідаюць веру ў Бога, або змагаюцца з верай, тыя ўлады псуюць людзям сумленьне і даводзяць да няшчасьця народ і край. Творыцца вялікая дэзарганізацыя: людзі ня ведаюць, як падпарадкаваць сябе такой уладзе, бо «трэба слухаць болей Бога як людзей» (Апост. Дд. 5, 29). Рэзультат такі: колькі ўлады зачыняюць сьвятыняў, толькі мусяць адчыняць турмаў і лягераў, каб прымусіць народ да паслушэнства.

*Агульнае дабро* — такая павінна быць мэта ўладаў. Улады павінны імкуцца да агульнага *дабра і шчасьця:* так абдумваць законы, уставы і такое даваць кіравецтва, каб усе бачылі добрую волю ўлады і самі тады стараліся ўспамагаць уладу ў справядлівых вымогах.

Дабро, да якога трэба імкнуцца, павінна быць *агульным,* гэта значыць нельга спрыяць т. зв. «сваім», а адымаць належную частку ад другіх. Мусіць быць асуджаная ўсякая дыскрымінацыя народаў, паводле колеру скуры, ці рознай рэлігіі, мовы, веку, а тымбольш сымпатыі, ці антыпатыі.

Калі ўлады выкрыўляюць агульнае права, а даюць перавагу адной групе насупраць другім, дык гэтым самым нарушаюць агульны парадак і грамадзяне ня могуць выканаць сваіх абавязкаў, наракаюць, ці бунтуюцца, ці — за прыкладам улады — псуюць парадак далей і глыбей. Тады такая неаглядная ўлада пачынае мсьціцца і раўнавага дзяржавы можа быць зламаная.

У кажным чалавеку трэба шанаваць ягоную асобу, бо чалавек — істота з несьмяротнаю душой: а ёсьць краі, у якіх больш дбаюць аб ахову і абарону жывёлы, чым чалавека. Трэба роўна з поступам эканоміі разьвіваць парадак сацыяльны — абслугоўваць людзей: паляпшаць дарогі, транспарт, камунікацыю, жыльлё, школы, выгоды, адпачынак і забавы. Даваць магчымасьць людзям здаволіваць іх патрэбы здароўя, маральнага парадку, рэлігіі, каб маглі весьці годны спосаб жыцьця, як кажуць, «жыць па людзку». Павінна быць забяспечана *страхаваньне* ад няшчасных выпадкаў, старасьці, неўраджаю, пажараў і інш.

Нельга сказаць, які спосаб выбару ўлады, ці канстытуцыі, ёсьць найлепшы: тут трэба тасавацца да прывычак і патрэбаў часу і да вымогаў бальшыні народу ў вольных выбарах, асьцерагацца партыйных прывілегіяў і спэкуляцыі галасамі. *Заканадаўчая* ўлада павінна даваць установы ясныя, правы роўныя і справядлівыя ў парадку маральнасьці і пашаны асобы. — *Выканаўчая ўлада* павінна тасаваць законы разважна, добра ведаючы літару і дух закону — адпаведна да патрэбаў людзей, з якімі маюць справу.

*Судовыя ўлады* павінны судзіць бесстаронна і моцна трымацца справядлівасьці, ня ўступаючы перад ніякім націскам іншых уладаў ці адзінак.

*Урадоўцы,* на якіх адказнасьці ляжыць агульнае дабро, павінны быць прыгатаваны для грамадзкай службы, маральна самі здаровыя, з практычнай інтуіцыяй, каб хутка даваць раду ў нязвычайных здарэньнях: а так-жа з рашучай і моцнай воляй, каб дзеіць удала і хутка.

Грамадзяне павінны ўдзельнічаць у грамадзкім жыцьці, пазнаваць законы свайго краю, цікавіцца падзеямі і іх прычынамі, спагадаць краю і ўладзе. У патрэбе — паводле сваей кваліфікацыі — прыймаць на сябе адказнасьць за падзеі і прыймаць функцыі ўрадоўцаў ці заканадаўцаў.

## РАЗЗБРАЕНЬНЕ

Вельмі сумна, што ў багатых і моцных краёх кладуцца вялікія сродкі на ўзбраеньне. Падаецца прычына, што трэба тварыць «раўнавагу сілы». Тады і другія сьпяшаць да тэй «раўнавагі» і гэтаму няма канца! З гэтуль родзіцца неспакой у душах, няпэўнасьць жыцьця, недавер паміж народамі і страх згубы ўсяго сьвету... Кашмар абыймае сэрцы, што можа нячакана выбухнуць ураган, ад якога няма ні сховішча, ні ратунку!

Хоць усе пэўны, што нхіто не адважыцца пачаць такую самабойчую вайну, але магчымы непрадбачаны выпадак і аўтаматычны выбух, ці можа здарыцца памылка, або правакацыя... Дзеля таго *мудрасьць і чалавечнасьць дамагаецца, каб затрымаць спаборніцтва* і ўзбраеньне, каб зрабіць рэдукцыю таго аружжа, якое ляжыць у запасе, каб забараніць *атамнае* аружжа і каб увесьці на ўсім сьвеце *кантроль* узбраеньня.

Але ўсё гэта немагчыма, калі не наступіць раззбраеньне *розуму,* каб зьнішчыць гон да вайны. Гэтага вымагае *разважнасьць,* што мэта міру не дасягаецца *сілай,* але *правам,* справядлівасьцяй і праўдай. Міру дамагаюцца ўсе людзі бяз вынятку, бо сусьветная вайна пагражае зьнішчэньнем усяго жыцьця на нашай плянэце. Ці — людзі звар'яцеўшы, захочуць прычыніць штучны канец сьвету ? !

Папа Пій XII казаў (у 1939 г. 24-га жніўня): «Нічога ня страчана з *мірам.* Усё можа быць страчана з *вайною».*

Дзеля таго папа Ян XXIII ў гэтай Энцыкліцы «Мір на Зямлі» заклікае ўсе народы і ўсіх людзей, асабліва *кіраўнікоў дзяржаваў* — самым урачыстым і паважным спосабам. Вось яго словы:

*«Як НАМЕСЬНІК ІСУСА ХРЫСТА,*
*які ёсьць Збавіцелям сьвету і тварцом міру,*
*і як выразіцель самага глыбокага жаданьня ўсёй чалавечай сям'і,*
*ідучы за парывам свайго сэрца,*
*охопленага жаданьнем дабра для ўсіх,*
*Мы лічым сваім абавязкам прасіць-заклінаць людзей,*
*асабліва тых, якія нясуць грамадзкую адказнасьць,*
*каб не шкадавалі ніякага стараньня на тое,*
*каб даць справам разумны і чалавечы напрамак».*

*«У вышэйшых і спэцыяльных асамблеях няхай яны фундаментальна разгледзяць задачу, мірнаю дарогай паправіць адносіны паміж палітычнымі грамадзтвамі. У сусьветным маштабе, апіраючыся на ўзаемны давер, на шчырасьць у перагаворах, на вернасьць у прынятых забавязаньнях. Няхай яны разважаць гэтую задачу аж да выясьненьня таго пункту, адкуль пачаць дарогу да згоды ляяльнай, даўгавечнай, плённай».*

*«З нашага боку Мы ня перастанем выпрашываць Божае багаслаўленьне на іх стараньні, каб яны прынесьлі дадатныя рэзультаты».*

*«Усе адносіны паміж грамадзтвамі ( палітычнымі) павінны рэгулявацца ў с в а б о д з е. Гэта значыць, што ні адно з іх не мае права прыбегаць да прыгнечаньня другіх і незаконнага мяшаньня ...»*

І наадварот, усе павінны памагаць адны другім, каб усе маглі ісьці наперад.

«Супольнасьць паходжаньня, збаўленьня, вышэйшага назначэньня зьвязывае ўсіх людзей і заклікае іх утварыць *адну хрысьціянскую сям'ю».*

Папа Ян, каторага словы мы толькі што цытавалі, прыпамінае, што ўжо ў 1961 годзе заклікаў народы і дзяржавы да супрацоўніцтва і ён цешыцца, што заклік ня быў дарэмным: зразумелі яго і адазваліся не адны. З таго меў надзею, што і цяпер і ў прышласьці сьвет паволі дойдзе да поўнае згоды і супакою.

У канцы III часткі Энцыклікі папа Ян XXIII пацьвярджае, што ўмацняецца пераканаиньне, як новы «*знак часу,* што супакой павінен быць мацаваны *перагаворамі,* а не аружжам, сужыцьцём з суседзямі і з цэлым сьветам, а не вайною; каб запанаваў на сьвеце *мір і любоў,* а не страх і ненавісьць. Немагчыма думаць, што ў атомную эпоху вайна можа быць спосабам да супакою і памыснасьці... Затое пры спатканьні і перагаворах людзі дойдуць да пазнаньня, што сама прырода кліча іх да згоды і трывалага міру.

## КНЯЗЬ СУПАКОЮ

У канцы Энцыклікі папа Ян XXIII кажа, што ягоная мэта была замацаваць *супакой* на зямлі і дзеля гэтага зьвярнуўся да людзей *добрае волі.* Выступае, як Намесьнік Таго, Каго пракорокі называлі *Князем супакою.* Папа лічыў сваім абавязкам аддаць усю энэргію дзеля такое важ-

нае справы. Але кажа, што мір-супакой астанецца «пустым гукам», калі не абапрэцца на любові і свабодзе.

Аднак гэтая задача так сьвятая і высокая, што ўсё людзкое стараньне само не даканае нічога, бо Божае Валадарства можа прыйсьці толькі з Божаю помаччу. Дык вось папа Ян узносіць свае малітвы ў тым пакутным часе (тады быў Вялікі Пост), каб Збавіцель сьвету перамог грэх, журбу і вялікі разлад, і супакоіў чалавецтва. Хрыстос прынёс супакой і яго пакінуў людзям: «Мір пакідаю вам, *мір Мой даю вам:* даю-ж вам ня так, як сьвет дае. Няхай ня сумляваецца сэрца вашае і не баіцца». (Іоан 14, 27).

Такога міру выпрошвае ў Бога Ян XXIII «гарачым клічам» сваей малітвы. Каб-жа Бог адсунуў ад людзкіх сэрцаў усё тое, што пагражае небясьпекаю; няхай учыніць усіх нас сьведкамі праўды і братняе любові! Каб Бог прасьвяціў *кіраўнікоў* народаў! Як яны дбаюць аб матар'яльным дабры людзей, каб так-жа сьцераглі вялікі *дар міру*. Каб Бог запаліў сэрцы ўсіх людзей — перамагаць перашкоды і мацаваць сувязі ўзаемнае любові — старацца зразумець другіх і дараваць крыўдзіцелям. Божаю моцай няхай злучацца як браты ўсе народы зямлі і няхай зацьвіце і заўсёды валодае пажаданы мір!

«Як заруку гэтага міру разам з пажаданьнямі, каб гэты мір асьвяціў сваімі праменьнямі хрысьціянскія грамады, для шчасьця перадусім самых прыніжаных і патрабуючых абароны...» папа Ян XXIII з радасьцю дае сваё *апостальскае багаславенства* ўсім біскупам, сьвятаром, манахам і манахіням і ўсім веруючым, а найбольш тым, што прыложаць усё стараньне, каб правесьці ў жыцьцё напамінаньне аб згодзе.

«Нарэшце ўсім людзям добрае волі, да якіх таксама зьвернена Нашае Акружное Пасланьне, Мы выпрошваем у Найвышэйшага Бога здароўе і памыснасьць».

«Дадзена ў Рыме, ў Сьвятога Пятра, ў Вялікі Чацьвер, красавіка дня 11-га, ў годзе 1963, Нашага першасьвятарскага служэньня ў годзе пятым».

# МАЕ ПРЫЯЦЕЛІ

(УСПАМІНЫ)

Думка, каб апісаць сваіх найбліжэйшых — прыяцеляў, даўно залегвае ў маей душы. Тымбольш гэты абавязак мушу адбыць, бо я меў шчасьце цешыцца дружбай людзей вельмі мілых і якраз гарачых беларускіх сьвятароў-патрыётаў, значыць, мушу сплаціць доўг і асабісты і грамадзкі.

Ужо я пісаў аб а. Ф. Абрантовічу і а. Цікоце («Успаміны, Кітай-Сібір-Масква») і аб В. Шутовічу ў «Божым Шляхам».

Цяпер даю кароткі нарыс — паводля сваей памяці — аб а. КАНСТАНТЫМ СТЭПОВІЧУ.

*

## КАСТУСЬ СТЭПОВІЧ

*(1890-1926), — Сьвятар, паэт, пісьменьнік*

КАЗІМІР СВАЯК — гэта псэўданім К. Стэповіча, каталіцкага сьвятара. Радзіўся ў маёнтку Шайкуны Сьвянцянскага павету, Віленскай губэрніі. Шайкуны былі тады маемасьцяй пана (памешчыка) Свольченя, у якога бацька Кастуся быў лясьніком. Жыцьцё Стэповічаў было батрацкае, аднак адносна лепшае, чым другіх панскіх слугаў.

Я толькі адзін раз бачыў у Вільні Стэповіча бацьку-лясьніка: гэта быў магутны мужчына, сын беларускай прыроды-лесу, моцны як дуб, паважны і маўклівы як сасновы бор, беларуская пушча.

Малы Кастусь здолеў пры двары набраць вонкавай аглады і культуры: аднак усё жыцьцё адчуваў крыўду нашага народу і несправядлівасьць з боку расейскай улады і польскай палітыкі на Беларусі.

У такой рэлігійнай мітусьні і нацыянальнай нясьведамасьці гадаваўся наш Кастусь Стэповіч: у хаце гаварылі па беларуску («па просту»). Маліліся і вучыліся чытаць у хаце па польску, у касьцеле ўсё набажэнства ішло па лаціне; касьцельная навука, катахізмы і песьні — па польску, ў школе вучыліся па расейску. Значыць, польская і расейская мова займалі ў нас месца ганаровае, а беларуская была — «тутэйшая».

У 1906 г. Кастусь скончыў гарадзкое вучылішча ў Сьвянцянах і паступіў у Вільні ў інтэрнат, каб прыгатавацца да духоўнай сэмінарыі. Тут мы з ім спакаліся і правялі тры гады ў прыватнай навуцы. Трапіць у гімназію мы аніяк не маглі, бо і сродкаў бракавала і гімназіяў не хапала нават для добра багатых.

Кастусь быў сярэдняга росту, валасы блёнд-шатэн, вочы зялянкавыя, твар мужскі: энэргічны хлапец, кідлівы, вельмі шустры ў гульнях, чульлівы, гаварлівы, але пануючы над сабою; умеў быць паважным, задумліваўся і любіў самоту. Меў нейкі магнэс таварыскі і прыяцельскі. Мы з ім толькі аднойчы пасварыліся, каб падружыцца на ўсё жыцьцё!

У навуцы асабліва быў здольны да языкоў: лаціну і францускі ўспрымаў значна скарэй ад мяне, але ў матэматыцы аказаўся слабейшы. Іграў на скрыпцы; а голас меў — такі прыемны, далікатны першы тэнар, што здавалася выб'еца на сапраўднага артысту!

Няма аднак поўнага шчасьця на зямлі! Такі сымпатычны юнак, які мог выбіцца і як сьпявак і як пісьменнік-паэт, неспадзявана ўпаў у сухоты і пачаў чахнуць на жаль усіх сяброў і беларускага грамадзтва. І ніякія дактары-лекі не памаглі! Шэсьць разоў езьдзіў у Карпаты (Закапанае) лячыцца горным паветрам; але там знайходзіў толькі палёгку, а не здароўе. Праўда, знайходзіў там адборнае таварыства, інтэлігентаў і мастакоў, якія таксама шукалі мілага здароўя.

У 1912 г. перад летам мы з Кастусём былі пасьвячаны ў субдыяканы ў Віленскай катэдры, а за пару тыдняў — на дыяканаў — у Каўнас.

І вось пасьля дыяканату К. Стэповіч (як я ўжо казаў), упаў у сухоты. А прычынаў было некалька: і тое, што заўзята вучыўся і што памешканьні ў сэмінарыі трапляліся неадпаведныя (так зв. «цэлі»), бо муры былі старыя. Найгорш аднак, што ў сэмінарыі была ўведзеная клерыцкая форма: зімой насілі плашчы з пялярынамі, якія трэ' было здыймаць у катэдры і падчас набажэнства (нядзелямі) трэ' было трываць у адных сутанах і комжах. Катэдра была неаграваная ... Гэтая мода вялася здаўна — мода вельмі шкодная для здароўя.

Навука Стэповіча ў сэмінарыі трывала даўжэй: ужо будучы дыяканам першы раз ён паехаў у Закапанае, а сьвятарскія сьвячэньні адцягнуліся на пару год. Мы з Кастусём дасюль былі ў сардэчнай дружбе, але з яго хваробай нам прышлося разьбіць сяброўства і кожны пакаціўся далей сваей асобнай каляінай.

Толькі аж у 1917 г. нам удалося спатыкацца часьцей: мы былі вікарымі ў суседніх парахвіях, я — ў Далістове Беластоцкага павету, а ён — у Карыціне, Сакольскага павету.

Я там знайшоў Кастуся вельмі добра настроенага і мы не маглі нацешыцца сабою! Стэповіч быў ужо ведамым паэтам і пісьменнікам: ён стала пісаў у «Крыніцы» і пасьля ў «Хрысьціянскай Думцы». Ня помню, у якім часе была выданая ягоная кніжка «Зборнік паэзіі — Мая Ліра». А я тады яшчэ ня пісаў нічога, навет ня зьбіраўся пісаць!

Толькі-ж нашае сонейка шчасьця затуманілася надта скора: хвароба Кастуся вярнулася і яму зноў пагражала небясьпека. Карыцін — месца неадпаведнае для сухотніка, а праца ў парахвіі вялікая. Трываў час вайны: мы аказаліся пад нямецкай акупацыяй. Пробашч Кастуся ня быў надта кідлівым і растаропным чалавекам і ня дбаў пра хворага вікарага.

Помню нашае сумнае спатканьне. Я быў таксама непрактычным і проста з гора апусьціў рукі, ня ведаючы, як ратаваць прыяцеля. Аж раптам мне засьвяціла ясьнейшая думка! Я ўзяў вялікі ліст паперы, палінеіў і паставіў нумары асобаў да подпісі. Тады ў Карыцін зьехалася нас некалькі сьвятароў з суседзтва. Пад канец абеду я падаў ліст наўкол стала да падпіскі ахвяраў на падарожу К. Стэповічу ў Закапанае.

Першы нумар заняў я сам, падпісаўшы 50 нямецкіх марак: гэта была максымальная сума, якую я мог выдаць. Адразу ліст трапіў у рукі пробашча з Сухаволі Ант. Гайлевіча. Я не спадзяваўся, што гэты дзівак дасьць якую лепшую ахвяру — аж ён падпісаў 200 марак! Тут усе прысутныя і ахнулі: яны ня мелі ахвоты рассыпацца ў ахвярнасьці і я зусім не спадзяваўся значнай эфэктыўнасьці з нашай падпіскі. Але вось ...

Мой пробашч, Ст. Гуневіч, падпісаў 100 марак, а другія хоць па 50, бо ўжо менш ня выпадала. — Так мы злажылі штосьці больш шасьці сотак, і ўжо сума была на тыя часы дастатковай для гэтага туру лячэньня ў Закапаным.

Пасьля гэтага здарэньня я зноў на доўга страціў кантакт з Кастусём. Канчалася вайна, ішла рэвалюцыя ў Расеі і Нямеччыне. Мяне лёс перакідваў з месца на месца. Толькі ў 1919 г. летам крыху паспакайнела. Я тады быў пробашчам у Ваўкавыскім павеце, ў Вялікай Лапеніцы і запрасіў К. Стэповіча да сябе на вакацыю. Зноў мы ўзрадаваліся адзін з другога. На бяду я быў вельмі заняты рамонтам касьцёла і мог праводзіць толькі невялікія хвіліны з дарагім прыяцелям. Але гэта былі хвіліны цудоўныя!

Там я папрасіў Кастуся сказаць навуку падчас набажэнства па *беларуску!* Дасюль — паводле звычаю і загаду духоўнай улады — навукі гаварыліся для беларусаў па *польску.*

Стэповіч гаварыў у нашай роднай мове ад шчырага сэрца і пасьля ўжо я сам павінен быў далей гаварыць па нашаму. Але ... пасьля другой навукі даведаўся аб такім «крымінале» дзекан Нікодым Тарасэвіч з Ваўкавыска і мне даў забарону гаварыць у касьцеле *«да людзей па людзку».*

*Увага:* Тады дзеканы мелі ўладу біскупа, бо трывала вайна і зносіны зь Вільняй былі ўтрудняныя.

Я — малады і паслушны сьвятар — ведама, паслухаў і ўся заслуга асталася пры маім адважным таварышу К. Стэповічу.

Тут толькі я пазнаў усю глыбіню гэтай сапраўды вялікай душы — яго мыслі, якія Стэповіч так рэльефна высказаў у сваёй біяграфіі — «Дзея маёй душы волі і сэрца». Гэта, праўда, толькі частковая казка аб сабе нашага дарагога патрыёта і пісьменніка Казіміра Сваяка-Канстантага Стэповіча.

Ужо больш мы з ім нігдзе не спатыкаліся. Увесь час хваробы Кастуся апекаваўся ім наш вялікі Дзеяч і Правадыр, а. Адам Станкевіч, рэдактар «Крыніцы», а пасьля — «Хрысьціянскай Думкі».

Апошні раз — расказываў мне а. Адам, як паехаў у Закапанае забраць паэта ў Вільню. Надзеі на выздараўленьне ўжо ня было, але хворы паэт яшчэ мроіў аб здароўі і рабіў пляны далёкія і ружовыя. І вось Станкевіч паважыўся яму сказаць, што трэба ехаць у Вільню і даць спакой лячэньню ў Закапаным...

Так нягодная хвароба забіла такое маладое, такое надзейнае, дарагое жыцьцё! Якая шкода, што мэдыцына тады ня ўмела парадзіць сухотам! А чалавек мучыўся і ня мог высказаць у паўнаце сваей душы — розуму, волі і сэрца. У спадку мы атрымалі толькі крошачкі з тых скарбаў душы, якія здолеў выразіць пры збалелых лёгкіх, пры запаўшых грудзях і аслабленым сэрцы мой наймілейшы з усіх прыяцеляў.

Няхай Яму будзе памяткай маіх пару слоў, запісаных вершам, як сьвядоцтва майго жалю, майго спачуцьця і шчырай любові!

Вечная Памяць! Няхай спачывае ў супакоі!

а. Язэп Гэрмановіч

# НА МАГІЛУ СВАЯКА

Задушкі на магільніку РОССА ў Вільні 1936 г.

*Памёр Сваяк: ўсе лятуценьні*
*Забраў з сабой. Тут — толькі цені...*
*А над магілай дрэвы шумны,*
*А на магіле камень сумны,*
*А у магіле адзінока*
*Ляжыць наш Лірнік, сьпіць глыбока*
*І сьніць там пра зямельку родну.*

*Сваяцкі дух аднак свабодны —*
*Хваробай цяжкай не зламаны*
*І ў путы сьмерці не скаваны,*
*Жыве, красуецца — ёй вечан —*
*Магільным каменям ня згнечан.*

*А у ціхі васенькі вечар,*
*Калі ледзь-ледзь калыша вецер*
*Лісткі пажоўклыя бярозы,*
*Калі з лістоў расінкі-сьлёзы,*
*Як сьветлячкі, як зоркі з неба,*
*Зьлятаюць ціха, — тады трэба*
*Прыйсьці на Россы...*

*То ня лісткі тады гамоняць —*
*То струны слаўнай «Ліры» звоняць,*
*Не салуўіны пералівы —*
*То Сваяковы песьні-дзівы:*
*Тых псалмаў гутарка павабна*
*Зьвініць так мякка, так ядвабна.*
*А то арганам загалосіць,*
*Або, як скрыпка, ласкі просіць.*
*Або як звон — зямля трасецца. —*
*Вось сьціх ён — толькі рэха льецца...*

. . . . . . . . . . .

*Гэй, падарожны, падзівіся —*
*Стань тут, глыбока пакланіся!*

. . . . . . . . . . .

*Хоць цьвёрды камень спарахнее,*
*Пагінуць дрэвы, цела стлее,*
*Хоць Россы будуць з зямлі зрыты,*
*А людзі слаўныя — забыты, —*
*Сваяк — мой Друг, ляжыць бяспечна,*
*Бо «Ліра» грацi будзе вечна!*

Вінцук Адважны



# III Сэсія Ватыканскага Сабору

*Праблемы і дыскусія над імі.*

ПАПА ПАВАЛ VI 14 верасьня адчыніў III Сэсію прамовай, у якой сказаў, што асабліва важнай і далікатнай будзе справа адносінаў Біскупаў да Рымскага Папы. Гэта мела быць разважана на першым Ватыканскім Саборы ў 1870 г., але тады Сабор быў перапынены з прычыны вайны.

Некатарыя людзі — свае і чужыя — выказывалі думку, што Рымскія Папы імкнуцца агранічыць правы Біскупаў. Вось Павал VI дае Біскупам поўную волю высказываць думкі і жаданьні, а такжа даваць вольныя галасы ў тайным галасаваньні паводле натхненьня Сьвятога Духа.

Папа сказаў, што «для дабра Царквы адзінай трэба тымбольш цэнтральнага кіравецтва, чымбольш Царква пашыраецца і чымбольшая становіцца небясьпека ад ворагаў веры, а пільнейшыя патрэбы хрысьціянскага народу».

Прывітаў Папа прысутных *абсарватараў*, а такжа прысутных *жанчын*, кажучы: «Міла нам ёсьць прывітаць сярод *аўдытараў* нашых наймілейшых дачок у Хрысьце, жанчын-аўдытарак, у пяршыню запрошаных прысутнічаць на саборным сабраньні».

✳

АБСАРВАТАРЫ: Навязываецца жывы кантакт паміж абсарватарамі і Айцамі Сабору: ёсьць нямала ўзаемных сумніваў і пытаньняў, але наступае значнае зьбліжэньне, а нават прыязныя адносіны.

Пастанова Сабору аб народных мовах у лацінскай літургіі і набажэнстве вельмі заімпанавала абсарватарам. Іх такжа зьдзівіла поўная роўнасьць Біскупаў у прамовах і галасаваньні — няма ніякіх прывілеяў для белай ці каляровых расаў, ані для ступеняў у адміністрацыі ці годнасьці; нават кардыналы ня маюць права даўжэй прамаўляць як 10 мінут.

29. IX Папа прыняў на спэцыяльнай аўдыенцыі 75 чал. абсарватараў у Сыкстынскай Капліцы: яны прадстаўляюць 23 Цэрквы або Фэдэрацыі рознага тыпу. Архімандрыт Родопулёс, прадстаўнік Канст. Патрыярха, сказаў ад імя усіх прамову. Ён гаварыў:

«Мы ведаем аб труднасьцях зьбліжэньня і мы ня маем ільлюзіяў... Мы ведаем, якія ёсьць істотныя справы, што нас дзеляць... Але гэтыя труднасьці не адбіраюць нам адвагі і стараньняў да канчатковай лучнасьці. Сіла веры ня мае граніц; яна ўзрушае горы. Яна можа такжа зрушыць горы тых труднасьцяў і бар'ераў, якія існуюць паміж хрысьціянскімі Цэрквамі».

Папа гаварыў: «Вашая прысутнасьць тут ёсьць знакам і спосабам духовага зьбліжэньня, якога дасюль ня бывала... Нарадзілася прыязьнь, засьвяціла надзея... Няхай-жа будзе Госпад праслаўлены!»

«Вы заўважылі, што Сабор ня мае для Вас іншых слоў, як толькі пашану і радасьць з вашае прысутнасьці, а такжа для вашых Супольнасьцяў, якія Вы прадстаўляеце. Больш яшчэ — гэта словы любові і надзеі...»

«Апрача таго Вы можаце заўважыць, як Каталіцкая Царква настроена да дыялёгу з пашанай і пагодай. Нашая Царква не націскае, яна толькі жадае пачаць гэты дыялёг, пакідаючы Божай помачы стараньне, як яго закончыць і ў якім часе Богу спадабаецца... Дзеля таго мы Вас просім занесьці вашым Грамадзтвам і Інстытуцыям нашую падзяку, нашае прывітаньне, нашае жаданьне ўсяго найлепшага ў Госпадзе...»

«Мы заклікаем закончыць нашае спатканьне, адмаўляючы супольна малітву, якой нас навучыў Ісус Хрыстос: ОЙЧА НАШ...»

✳

АЎДЫТАРЫ: 13, X. Адзін з аўдытараў, Патрык Кееган, 48 г., з Лёндану, кіраўнік Сусьветнага Руху Хрысьц. Работнікаў, выступаў з публічнай прамовай на Саборы. Сваё гістарычнае слова ён сказаў па ангельску да 2152 Айцоў. Пасьля прамовы атрымаў ад усяе аўдыторыі гарачае брава, а кардыналы Руффіні, Джыльфрой, Мэер і Агаджаніян віншавалі, сьціскаючы яму руку.

Кееган казаў: «Мы з вялікай радасьцяй прынялі дакумант аб Царкве, што займаецца сьвецкімі: ён дае нам новую візію нашай супольнай дзейнай супрацы ў місіі Царквы. Таксама з радасьцяй мы прынялі Канстытуцыю аб Літургіі, якая ажыўляе наш удзел у афіцыяльным аддаваньні культу Царквы. Мы з найбольшай увагай сьлядзілі вашыя дыскусіі на тэму Сьвецкага Апостальства...»

АЎДЫТАРКІ-ЖАНЧЫНЫ: Прыбыло на Сабор 15 жанчын: гэта прадстаўнічкі сусьветных каталіцкіх арганізацыяў і супэрыёршы галоўных жаночых законаў.

Арцыбіскуп Страссбургу Вэбэр у сваёй прамове зьвярнуўся да аўдытарак са славамі: „Carissimae Sorores“ — («Наймілейшыя Сёстры!»).

АЎДЫТАРЫ-СЬВЯТАРЫ: Папа Павал VI заклікаў на Сабор колькідзесяць сьвятароў-парахаў з розных краёў і народаў, каб маглі ўчасьнічаць у разважаньні на Саборы аб сьвятарстве.

Арцыбіскуп Фэрнандо Гомэс дос Сантос з Бразыліі заклікаў Сабор глыбей разважыць справу сьвятароў, бо — кажа — «ўсякі посьпех шкодзіць дасканаласьці, а сьвятарства ёсьць для нас надта вялікае і сьвятое, каб мы мелі гаварыць аб ім у разгоне».

Кардынал Руффіні падркрэсьліў вялікую ахвярнасьць сьвятароў, якія жывуць часта ў беднасьці і адзначаюцца штодзённым гэраізмам у адданьні і вернасьці ў службе Богу і людзям».

АПОСТАЛЬСТВА СЬВЕЦКІХ: Ня толькі Біскупы і сьвятары, але ўсе хрысьціяне ёсьць *Апосталы,* пасланыя Хрыстом апавяшчаць Сьвятую Эвангэлію. Дый усё чалавецтва ёсьць адказнае за Сьвятую Веру і за Апостальства!

Нельга ставіць Бар'еры паміж духавенствам і сьвецкімі людзьмі. Навет і Біскупы — ня толькі ёсьць нашыя Айцы і Настаўнікі, але і Браты ў веры і ў збаўленьні.

Сьвецкія людзі хай ня ўважаюцца за памочнікаў у апостальстве, але самі мусяць быць дзейнымі апосталамі і місіянэрамі, як гэта было ў першых вякох хрысьціянства.

Нават людзі няхрышчаныя маюць вартасьць у Царкве, як магчымыя хрысьціяне і могуць быць уцягнутыя ў актыуную працу, будучы яшчэ вонках Сьвятой Царквы.

Біскупы ў апостальстве ёсьць нашыя правадыры але ня дыктатары і нельга сьвецкіх людзей уважаць за падданых ці слугаў.

Некаторыя Біскупы дамагаліся каб прыймаць сьвецкіх у працу ў Рымскіх Курыях і Конгрэгацыях. Асабліва на гэта націскаў у сваей прамове арцыбіскуп Д. Соўза з Індыі і атрымаў ад Сабору дружныя воплескі.

✳

ЭКУМЭНІЗМ: Новая эпоха на Саборы!

Каталіцкая Царква хутка ідзе на ўгоду з «Адлучанымі Братамі», асабліва з Праваслаўнымі, не нарушаючы сваіх догматаў.

Некатарыя называюць гэта *рэвалюцыяй* у Царкве, якую праводзіць сама Царква — аж старшыя асобы з вялікім дзівам кажуць: «За нашых бацькоў гэтага ня бывала ! . . .»

На 14-ці галасаваньнях была прынятая экумэнічная схэма гістарычнага значэньня блізу аднагалосна!

Каталіцкая Царква прызнаецца перад усім сьветам у сваіх гістарычных памылках, у якіх былі вінаватыя нашыя продкі ў часе нязгоды з праваслаўнымі і пратэстантамі. Значыць, віна была па абодвух бакох і так нашыя браты сталі «адлучанымі». Цяпер ім трэба прыйсьці ў Свой Дом, якім ёсьць для нас усіх Хрыстовая Царква. Цяперашнія «Адлучаныя Браты» ў гэтым падзеле ня вінаватыя.

Мы прызнаём, што і ў іншых Цэрквах ёсьць Божая ласка, а ў праваслаўных ёсьць сапраўдныя Сакраманты (Таінствы), якія вядуць людзей да збаўленьня. Каталіком можна з хрысьціянамі іншых рэлігіяў маліцца: гэты парадак акрэсьляць Біскупы ў сваіх дыэцэзіях і краёх.

Праваслаўныя могуць у важнай патрэбе прыступаць да сьв. Сакрамантаў у каталіцкіх касьцёлах; а каталікі могуць такжа прыступаць да сьв. Сакрамантаў у праваслаўных цэрквах, калі няма свайго сьвятара. Гэтая самая трудная праблема перайшла галасамі Біскупаў. 2119 было *«за»,* а 39 было «супраць».

Яшчэ на пачатку Сабору ў 1962 годзе нельга было аб такім поступе і падумаць!

✳

УСХОДНІЯ ЦЭРКВЫ: Патрыярх Мэльхітаў у Антыохіі Максімос IV-ы, 86 гадоў, сказаў (гаварыў па францускy), што Рымскі Папа ёсьць Біскупам гораду Рыму і патрыархам Захаду, але ягоны прымат над усей Царквой ня ўменшыцца, калі іншыя патрыярхі будуць мець свае гістарычныя прывілеі. Сказаў, што кожны патрыярхат павінен быць апошняй інстанцыяй для ўсіх вернікаў у сваей акрузе: у гэтым няма крыўды для пяршынства Наступніка Сьв. Пятра.

16, X. КОПТЫЙСКІ арцыбіскуп Ізаак ХАТТАС, 55 гадоў, з гор. Тэбы ў Эгіпце, казаў, што нельга Ўсходніх Цэркваў уважаць за якіясьці «прыватныя» Цэрквы, ці «дадатак» да Каталіцкай Царквы.

«Мы — кажа — ёсьць таксама Каталіцкай Царквой!»

І казаў, што трэба, «каб мы маглі вярнуцца да сваіх краёў на Ўсходзе і абвесьціць нашым вернікам вось што: — Вашыя Патрыярхі ёсьць удзельнікамі Царкоўнага Сэнату, маюць права выбіраць Першага Патрыярха — Найвышэйшага Біскупа (Папу) і самі могуць таксама быць выбранымі . . .»

Арцыб. Ігн. Зіядэ ад Маранітаў з Бэйруту ў Лібане выказаў сваё зьдзіўленьне, што ў лацінскай Літургіі і ў набажэнстве вельмі шмат гаворыцца аб Ісусе Хрысьце, надта мала аб Богу Айцу і блізка нічога аб Сьв. Духу. Сьвяты Дух як-бы забытая Божая Асоба.

А трэба помніць, што Сам Ісус Хрыстос усе свае малітвы зьвяртаў да Бога Айца і Бог Айцец адказываў Яму з неба. І Апосталаў Хрыстос навучыў маліцца да Бога Айца ў малітве «Ойча наш, каторы ёсьць у небе . . .»

Таксама Хрыстос гаварыў Апосталам аб Сьвятым Духу, якога абяцаў ім паслаць ад Бога Айца з неба. Казаў, што Сьвяты Дух навучыць іх усякае праўды, што ім прыпомніць Хрыстовую навуку, што Сьв. Дух пацешыць іх і будзе з імі «да веку», значыць, заўсёды.

СЬВЯТОЕ ПІСЬМО І ТРАДЫЦЫЯ: У гэтым часе праходзіла вялікая дыскусія аб Святым Пісьме і Традыцыі. Божае аб'яўленьне прышло да нас праз слова перададзенае вусна і праз слова пісанае, значыць, праз Традыцыю і праз Стары і Новы Запавет. Сам Хрыстос нічога ня пісаў і не загадваў Апосталам пісаць, а сказаў: «Ідзіце па ўсім сьвеце і абвяшчайце Эванэлію ўсякаму стварэньню». (Марк 16, 15).

Ня ўсе Апосталы пісалі, але ўсе апавядалі Божае слова. Значыць, вялікая частка Божых праўдаў пашла ў сьвет ня пісаная, але праз вусны Апосталаў і гэтак пераходзіла з пакаленьня ў пакаленьне — аж дайшла да нашых часоў.

Некаторыя праўды веры ледзь успомнены ў Новым Запавеце, а ўжо праз Традыцыю дайшлі да нас у поўнай яснасьці. А Сьв. Царква пасьля сьмерці Апосталаў апякуецца і выясьняе Сьв. Пісьмо і Традыцыю.

Каб ня было непаразуменьняў, Царква мае свае Саборы Біскупаў: Саборы даюць выясьненьні, разьвязываюць сумнівы, асуджаюць памылкі. Рымскі Папа мае спэцыяльны прывілей, як Ключар і Галоўны Пастыр і Фундамант Цэрквы, пацьвярджаць пастановы Сабораў, «зьвязываць і разьвязываць» усякія патрэбы і пытаньні ў справах веры і абычаяў. Папа аднак ужывае Біскупаў як сваіх братоў у кіравецтве Царквою і вось дзеля чаго маемо Сусьветныя Саборы.

Сабор заклікае вернікаў часьцей зьвяртацца да Сьв. Бібліі, асабліва да Новага Запавету. Таксама дапускае супольны пераклад Бібліі з вучонымі праваслаўнымі і пратэстантамі.

Біскуп Цэкада з Югаславіі ставіў за прыклад пратэстантаў — казаў, што ў пазнаньні Бібліі каталікі стаяць ніжэй. Казаў, што ў Рыме павінна паўстаць Біблійнае Таварыства — на падабенства Брытанскага ў Англіі, каб выдаваць Біблію ў шмат мільёнах экзэмпляраў.

*

Аб СЬВЯТЫХ: Царква ў небе і на зямлі становіць адзін Божы народ — адно Містычнае Хрыстовае Цела.

Сьвятых у небе мы ўважаем за больш злучаных з Хрыстом: яны заступаюцца за нас у Айца праз Хрыста, з Хрыстом і ў Хрысьце. Аднак лішняя вонкавая остэнтацыя ў набажэнстве мусіць быць забаронена. Ёсьць-бо вялікая розьніца, як аддаваць чэсьць Сьвятым, а якая належыць Самому Богу.

Найсьвяцейшая Дзева Марыя называецца Маткай Боскай: чэсьць Яе вельмі пашырана на Ўсходзе і Захадзе. Праз Хрыста Марыя ў асаблівы спосаб зьвязана з Сьвятою Тройцаю і здабыла вынятковую годнасьць у Царкве і ставіцца як прыклад для хрысьціянаў.

Аднак і ў набажэнстве да Божае Маці трэба сьцерагчыся ўсяго лішняга і ненатуральнага, бо ўсёж такі яна ёсьць «Гасподняя Служанка», як сама сябе называла.

*

ЦАРКВА Ў СУЧАСНЫМ СЬВЕЦЕ: 19, Х. Біскуп з Ліворно ў Італіі Эміліян Гуано, 64 г., сказаў, што Царква ня можа трымацца палітыкі зачыняных дзьвярэй і толькі бараніць свае інтарэсы, але трэба выйсьці навонкі як і Сам Хрыстос прыйшоў на сьвет і жыў паміж людзей, — так і Царква жыве на сьвеце, дзеліць з людзьмі ўсе клапоты, каб вучыць іх лучнасьці з Богам, бо Царква створаная для людзей.

20. Х. Кардынал Леркаро, арцыбіскуп Болёніі ў Італіі, 73 г., сказаў, што — тэма такая важная, што нельга зь ёй сьпяшацца і — магчыма — нават IV-ай Сэсіі ня хопіць, каб добра яе разважыць, бо Царква павінна быць праводзячай зоркай усіх народаў. На гэтую тэму павінны прамаўляць прадстаўнікі ўсіх народаў і культураў.

Ягоная прамова была нагароджаная гарачымі воплескамі.

22. Х. Арцыбіскуп Вэстмінстэру (Лёндан) Джон Гіннэн вострa выступіў супраць тэалёгаў, якія апрацавалі праект Камісіі ў справе антыканцэпцыйных сродкаў, асабліва т. наз. «пігулак». Казаў, што справа дзяцей у жанімстве ёсьць вельмі паважнай: яе ня могуць разьвязваць самі тэалёгі-манахі. Гэтая праблема вымагае глыбокіх досьледаў лекараў-спэцыялістаў і тэалёгаў, якія прайшлі даўгалетнюю душпастырскую практыку. Інакш, пасьпешна дэцыдуючы, можна ўпасьці ў цяжкія памылкі.

Значыць, трэба выбраць новую паважнейшую Камісію, яка — пасьля 3-4 гадоў досьледаў — даложыць Сабору свае рэзалюцыі.

23, Х. Арцыбіскуп Іу Пін, 63 г., выгнанец з Нанкіну ў Кітаі, гаварыў аб камуністычным атэізьме. Сказаў:

«Камунізм ёсьць адно з найбольшых, відавочных і няшчасных зьявішчаў у сучасным сьвеце і Царква ня можа і не павінна ўнікаць гаворкі на гэтую тэму».

І далей: «Камунізм — гэта ваюючы атэізм. Гэта — кампіляцыя ўсіх гэрэзіяў. Мы мусім аб ім гаварыць, калі хочам бараніць праўду».

Далей: «Дзеколечы запануе камунізм, там існуе крывавы, або прынамсі юрыдычны пасьлед насельніцтва, а свабода яўна прыгнечана».

І кажа: «Трэба, каб Сабор над гэтай праблемай радзіў, каб здаволіць чаканьне і надзею народаў — найбольш тых, што стогнуць пад ярмом ка-

мунізму і так несправядліва церпяць неапісаны прыгнёт».

«Дык — кажа — паўтараю сваю просьбу, каб вы высказаліся ў нашай схэме аб камунізьме адкрыта, ясна і вычарпальна».

Царква не закладалася сама для сябе, але для сьвету, каб яго весьці да Бога. Царква ня жыве на няведамай плянэце, але жыве паміж людзьмі і нельга гаварыць: «Мы і Бог», але трэба казаць: «Мы і Бог і людзі».

Служба Богу — гэта служба людзям, як кажа Гасподзь: «Што вы зрабілі аднаму з найменшых, вы зрабілі гэта Мне».

26, X. Біскуп Шпуэльбэк з Усх. Нямеччыны казаў: «Экспэрты і спэцыялісты ў прырадазнаўчых навуках бываюць сапраўды засмучаныя ў гутарцы з намі. Бо наш язык ёсьць бадай старасьвецкі, нестасоўны да іхных поглядаў... Навукоўцы пранятыя апошнімі пытаньнямі ў галіне касмалёгіі — дайшлі да новых зьявішчаў і асноўных канцэпцыяў, якія абсалютна не адпавядаюць нашай філязофіі».

Біскуп адзначыў, што а. Тэільгард дэ Шардэн (езуіт) мае такі вялікі ўплыў у сяньняшнім навуковым сьвеце, бо гаворыць навуковай мовай: ён разумее навуковыя праблемы і ад яго можна спадзявацца помачы ў рэлігійных справах падчас студыяў.

Дзеля таго здэкляраваныя атэісты ненавідзяць а. дэ Шардэна.

27, X. Біск. І. Гарнэры з Італіі гаварыў аб *турыстыцы*, што гэта — адно з найважнейшых зьявішчаў у сучасным сьвеце. Турыстыка павінна прычыніцца да пагадненьня цяперашняга сьвету: дае магчымасьць спатыкацца і гаманіць людзям вольным ад штодзённых клапотаў і працы. У мінулым годзе 22 мільёны турыстаў наведала Італію, 6 міл. — Францыю, 13 міл. — Гішпанію. Апрача таго і свае не сядзяць дома і адведываюць свой край.

Біскуп казаў, што масавы наплыў турыстаў прычыняецца да фармаваньня погляду людзей, дык на гэта Царква мусіць зьвярнуць вялікую ўвагу.

*Рэдакцыя »Б. Шл.«* скажа ад сябе: Належыла-б, каб Каталіцкая Царква ў такіх краёх як Італія, Гішпанія і інш. 1) Выдавала штотыднёвыя *газэты* для турыстаў у галоўных мовах. 2) Каб у галоўных гатэлях у турустычным сэзоне былі адчыненыя *капліцы* для сьвятароў-турыстаў, ці для спэцыяльных *капэлянаў*. 3) Каб увесьці *абмен капэлянамі* для турыстаў паміж краямі, якія абменіваюцца турыстамі. 4) Каб назначаць спэцыяльныя гадзіны ў сьвятынях на сьвяточнае набажэнства для турыстаў з мовай (у навуках) адпаведнай для тых-жа. 5) Уцягнуць у духоўныя справы радыё, тэлевізію і інш. ў сэзоне турызм.

27, X. Аб УБОСТВЕ (беднасьці) гаварыў Бп. Шарль Гіммэр з Бэльгіі: «Каб перамагчы голад і каб узмацніць людзкую супольнасьць у галіне справядлівасьці і ахвярнасьці: значыць, каб людзі былі гатовыя ня толькі галаслоўна, але дзейна, перамагаць хцівасьць і каб маглі дапамагаць тым, што церпяць голад і скрайнюю галечу».

Бп. казаў, што »гэта належыць да істоты Хрыстовай Эвангэліі, якая цесна зьвязаная з Боскай і братняй любоўю».

«Ці не здаецца вам — казаў — што гаворачы казаньне, мы самі павінны быць першымі на гэтай дарозе, ідучы ў сьлед Хрыста ў спосаб, які нам падкажа Сьвяты Дух?...»

28, X. Аб асабістай ГОДНАСЬЦІ ЧАЛАВЕКА гаварыў Бп. Анд. Грутка із Злуч. Штатаў Амэрыкі. Казаў: «Належыць, каб Айцы гэтага Сабору — з усіх старон сьвету і розных колераў скуры — выразілі свой пратэст супраць усякай сэгрэгацыі і з моцай ерыхонскіх разбураючых трубаў абвялі *асабістую годнасьць і права* чалавека — дзе-б ён ня жыў, — з найбольшай яснасьцяй і бяз ценю сумніваньня».

Бп. казаў, што вялікі сорам каталіком, якія ўцякаюць зь месца, дзе асядаюць каляровыя, а каталіцкія місіі і парафіі пусьцеюць. Катал. Царква ёсьць надзеяй для ўсіх людзей і збаўленьнем для іх. «Паняверка чалавека за яго адменны коляр скуры, за тое што ён чужаземец, або іншай веры — гэта папросту правакацыя Божага Провіду, бо ніхто з людзей ня можа выбіраць сабе бацькоў або край для нараджэньня».

28, X. Арцыб. Дамінік Атгайдэ, Капуцын з Індыі, гаварыў з цэлай энэргіяй, каб парушыць сумленьне сьвету для гэтай балючай праблемы, якой ёсьць расавая *сэгрэгацыя*. Кажа: «Нават у нашых часох, у якіх прышлося нам жыць, далей існуе таёмнае *нявольніцтва:* людзей купляюць і прадаюць яшчэ сяньня. Ды ёсьць уважаныя вольныя краі, дзе грамадзяне ніколі не карыстаюць з поўнага права. Бяз ніякага сумніву тыя людзі заслужылі на спачуцьцё і літасьць, якія ў родным краі, на роднай зямлі прыгнечаныя вельмі цяжка праз варожы рэжым, ці праз варожых суседзяў... Тыя народы, так моцна прыгнечаныя, чакаюць, як ведама, ад гэтага Сусьветнага Сабору, пазытыўных адносінаў і акцыі ў іх абароне. З глыбіні сваей нядолі яны ўзносяць вочы і выцягваюць да нас у роспачы рукі, ня губляючы надзеі, што праз нашую інтэрвэнцыю атрымаюць вольнасьць і што ім удасца ратавацца ад гэтай новай хвалі нявольніцтва».

Арцыб. выразіў прызнаньне ўспамінаючы Магатму Гандзі, Джона Каннэдзі, а. Марціна Лютара Кінга (нэгра) і гіндускі ўрад за іх непахісную і станоўкую пазыцыю ў справе сацыяльнай спра-

вядлівасьці, права чалавека і рэлігійнай вольнасьці. Казаў, што «такі незвычайны, выдатны чалавек, які быў Магатма Ганді, заслужыў на зьдзіўленьне і пашану» за змаганьне, каб вынесьці з подласьці шэсьць мільёнаў індускіх парыясаў даўней залічаных да чарады вырадкаў грамадзтва.

Арцыб. назваў памяць Кэннэдi «годнай найвышэйшай пашаны, бо ён пасьвяціў сябе, а нат' аддаў жыцьцё, каб дабіцца грамадзкіх праў для нэграў у Злуч. Штатах Амэрыкі».

У канцы Арцыб. заклікаў Айцоў Сабору, каб не баяліся казаць праўду у абароне вольнасьці людзей і народаў.

Пасьля яго прамовы ўвесь Сабор даў гарачыя воплескі.

*

28, X. Аб асабістай вольнасьці ЖАНЧЫНЫ гаварыў Біскуп Г. Кодэррэ з Канады. Сказаў: «Жанчына мае асаблівую і неабходную ролю ў гэтым сьвеце, каб споўніць свае абавязкі ў грамадзтве і ў Царкве... Аж да нашага часу, на жаль, жанчына не магла спаўняць поўнасьцю сваей ролі так у грамадзтве як і ў Царкве, хоць хрысьціянскія жанчыны працавалі так шмат — усюды і заўсёды — з сапраўднай ахвярнасьцяй ў галіне навучаньня, шпітальнай працы, ў розных установах і г. д.

Біскуп сказаў: «Царква ў гэты час сваей гісторыі павінна запрасіць людзей, а найперш хрысьціян, каб рабілі ўсё магчымае, каб жанчына магла асягнуць належнае ёй месца ў жыцьці грамадзтва і ў жыцьці Царквы... Бог стварыў мужчыну і жанчыну як роўных партнэраў: абоім даў роўнае права да ласкі, і кожнаму даў спэцыяльную адказнасьць у жыцьці Царквы, бо заклікаў іх як роўных да той самай адвечнай шчасьлівасьці».

29, X. Біскуп Фротц казаў: «Вартасныя жанчыны жадаюць адыграць сваю ролю асабіста ў жыцьці грамадзкім, інтэлектуальным, культурным, эканамічным і палітычным, а такжа ў жыцьці Царквы». (Папа Ян XXIII казаў, што чалавек мае права, каб яго асабістая годнасьць была прызнаная і ацэненая, а яго здольнасьці каб былі разьвітыя для дабра ўласнай асобы і грамадзтва).

Зьмяняецца час і зьмяняюцца жанчыны, дык Царква мусіць прызнаць зьмененую пазыцыю жанчыны ў сучасным сьвеце.

*

29. X. Кардынал Суэнэнс з Бельгіі сказаў у справе ЖАНІМСТВА: «Мы ўсе добра ведаем, як вельмі крытычнай ёсьць у сьвеце і ў Царкве справа жанімства, а над усё справа рэгуляваньня натуральнага прыросту».

Аб Камісіі гаварыў, што яна павінна правесьці шырокае дазнаньне сярод выдатных маралістаў, навукоўцаў і прафэсараў унівэрсытэцкіх з усяго сьвету пасярод мужчын і жанчын сьвецкага стану і сярод хрысьціянскіх жанімстваў.

Сказаў, што фаміліі ўдзельнікаў гэтай Камісіі будуць абвешчаныя.

Сказаў, што Царква ніколі не адкідае праўды, якую раз ужо апавядала. Але з бегам часу Царква даходзіць да глыбейшай аналізы Сьвятога Пісьма і выводзіць высновы і падае да публічнага ведама, а Сьвяты Дух заўсёды прыводзіць Царкву да паўнейшай праўды. І сказаў да ўсяго Сабору: «Вялебныя Айцы! нам нельга маўчаць. Не пабаімся пачаць студыяў у гэтай справе, бо збаўленьне душаў, нашых сем'яў, а нат' усяго сьвету знаходзіцца ў небясьпецы».

*Аб рэгуляцыі натуральнага прыросту —*

*Патрыярх Максімос IV Сайг* сказаў: «Вернікі знаходзяцца ў прыкрай жыцьцёвай сытуацыі, супярэчнай з царкоўным правам, здалёку ад Сакрамантаў (Таінстваў) і ў сталай небясьпецы, бо ня могуць адпаведна развязаць двух супярэчных прыказаньняў, калі йдзець аб сумленьне і нармальнае жанімскае сужыцьцё».

Казаў: «Пераважная большасьць хрысьціян жыве практычна супраць агульнага навучаньня Царквы». Значыць, разьвязаць гэтую праблему барджэй пільна цяпер як каліколечы, бо адпружаньне ёсьць неабходна ў перанаселеных частках сьвету, дзе цяпер варункі жыцьця сьпіхаюць сотні мільёнаў людзей на дно галечы страшэннай і безнадзейнай.

Казаў: «Сабор мусіць высказаць, ці Бог хоча сапраўды такога затору, так прыгнятальнага і праціўнага для натуры?»

І сказаў яшчэ, што Каталіцкая Царква павінна сур'ёзна пачаць гаварыць аб гэтай справе з іншымі хрысьціянскімі і з не-хрысьціянскімі — вучонымі і мысліцелямі, бо мы знаходзімся перад праблемай супольнай для ўсяго чалавецтва.

## ВЯЛІКІ КРОК ДА ЗГОДЫ КАТАЛІКОЎ З ПРАВАСЛАЎНЫМІ

1-га лістапада 1964 г. пачалася на востраве Родос канфэрэнцыя праваслаўных дэлэгатаў ад 8-мі патрыярхаў — Канстантынопаль, Александрыя, Антыохія, Ерузаліма, Масква, Бэльград, Букарэст і Софія і 6-ці Цэркваў аўтакефальных — Цыпр, Грэцыя, Польшча, Грузія, Чэха-Славацыя і Фінляндыя.

Мэта Канфэрэнцыі: К-скі Патрыярх Атэнагорас, пасьля спатканьня з Рымскім П. Паўлам VI у Ерузаліме 5. I. 1964 г., разаслаў да ўсіх Праваслаўных Цэркваў заклік — сабрацца на Канфэрэнцыю і згаварыцца аб адносінах да Каталіцкай Царквы.

Значыць, справа набрала значэньня экумэнічнага — гэта ўжо ня прыватнае спатканьне і гутарка, але афіцыяльная размова аб адносінах Цэркваў, што ад 1054 г. жылі паасобку. Так Патрыярх Атэнагорас, як і Рымскі Папа паказалі перад усім сьветам найвышэйшую *добрую волю*.

Павал VI выслаў на гэтую Канфэрэнцыю да сабраных Правасл. Іерархаў сваё прывітаньне ў спэцыяльным лісьце. Тытулуе іх «Вельмі дарагімі Братамі», і з цэлым Ватыканскім Саборам моліць Бога, каб паслаў ім Сьвятога Духа. Перад гробам Сьв. Пятра ўвесь Сабор моліць Бога і просіць ласкі для іх і для сябе, «каб усе былі праняты супольнай любоўю».

Далей Папа піша: «Няхай Найсьвяцейшая Дзева Марыя, Божая Маці і нашая супольная Маці, да якой мы молімся і аддаем чэсьць з той самай гарачай любоўю, — заступіцца за нас, каб мы што раз больш узрасталі ў любові да яе Сына, нашага Збаўцы і адзінага Госпада. Каб любоў, якую мы жывім пры Гасподнім Стале, нас учыніла на кожны дзень больш стараннымі ў лучнасьці духа, і ў зьвязку Супакою».

*

Гэты ліст Папы зрабіў моцнае ўражаньне на ўсіх сабраных. Прысутны там на Канфэрэнцыі праф. Ніссіотіс сказаў, што гэты ліст Папы, адрэсаваны да Праваслаўных, мае той самы тон, у якім Рымскія Папы пісалі да падзелу Цэркваў.

Канфэрэнцыя пастанавіла аднамысна адпісаць Папе.

Яны пісалі: «Мы атрымалі з вялікай радасьцяй вельмі мілае пісьмо ад Вашай Дастойнай Сьвятасьці.

«Мы шчыра цэнім словы любові і міру ў гэтым пісьме і толькі Гасподняя ласка, што гэта нам прышло ад Вас і ад Ватысканскага Сабору і ад усей каталіцкай рымскай Царквы.

«Супольнай пастановай мы перадаём вашай Сьвятасьці нашую гарачую падзяку.

«Пасылаем Вам прывітаньне наўзаем — міру і любові ў нашым Господзе. Трываючы ў малітве і аказываючы адны другім пашану, мы ідзём паводле Божага загаду, каб споўніць волю Хрыста Госпада Нашага аб яго Царкве...

«У тым самым духу і надзеі, што Гасподзь, які адкупіў сваею крывёю, ён Цэркву ўзгодніць, праз заступніцтва Найсьвяцейшае Маці, дасьць пацеху і сілу і вам і нам, каб цешыцца дабром брацтва ў Хрысьце».

ЗАЛАТУЮ МІТРУ з каштоўнымі каменьнямі Папа палажыў пасьля набажэнства на аўтар — як ахвяру для бедных. 13. XI. 64 г. ў базыліцы Сьв. Пятра адпраўлялі ўрачыстую Літургію — саборна — каталіцкія ўсходнія Патрыярхі і Біскупы (там быў і наш *Уладыка Чэслаў)*. Гэта быў дзень Сьв. Яна Хрызастома, Канстантынопальскага Патрыярха.

Пасьля Літургіі прысутны Папа зьняў мітру, а сакратар Сабору Фэлічы аб'явіў, што мітра аддаецца на бедных: яна была ахвяраваная праз гор. Мілан, дзе да сваіх выбараў Папа быў кардыналам-арцыбіскупам.

Папа прызнаў сваю мітру за лішне збыткоўную і каштоўную. І гэта добры прыклад для вышэйшага духавенства сьцерагчыся паказной пышнасьці.

## НОВЫ ТЫТУЛ БАГАРОДЗІЦЫ — «МАТКА СЬВЯТОЙ ЦАРКВЫ»

На Саборы была гарачая дыскусія аб гэтым тытуле: былі закіды, што не належыць дражніць пратэстантаў такой новай назовай і галасы разьдзяліліся, так што не хапіла галасоў да саборнай большасьці — 2/3. Тады Папа ад сябе зацьвердзіў новы дэкрэт.

А пратэстантам, якія ня прызнаюць малітвы да Божае Маці і да Сьвятых, можна адказаць, што ад вякоў Царква — на Захадзе і на Ўсходзе — прызнавала тытулы вялікім сьвятым — багасловам *«Айцец Царквы»*, як напр. Аўгустын, Ян Златавусны, Грыгор Багаслоў і інш. І пратэстанты гэтаму не пярэчылі.

Чаму-ж нельга даваць падобнага тытулу Божай Маці, якая перавышае ўсіх Сьвятых?

# Эўхарыстычны Кангрэс у Індыі

ЛІСТАПАД-СЬНЕЖАНЬ 1964

У канцы лістапада — ад 28, XI да 6, XII ў гор. Бамбэй адбудзецца 38-мы Эўхар. Кангрэс, на які 2-га сьнежня прыбудзе Рымскі Папа Павал VI.

✳

ІНДЫЯ — паводле прастору займае 7-ае месца паміж найбольшымі краямі сьвету, а паводле колькасьці народу — 2-е месца і мае 450 мільёнаў людзей. У Бамбэі жыве 4 міл.

Насельніцтва разрастаецца бязмерна: паміж 1951-1961 г. (за 10 гадоў) прыбыло 80 міл.

3.500 г. таму Індостан занялі арыйцы — раса, да якой належым і мы, як усе белыя. У пачатку нашай эры прыбылі тюркі, манголы і афганы. У XVI веку — партугальцы, пасьля — французы, у XVII — англічане, якія паволі перамаглі ўсіх.

У 1947 г. ад Індыі аддзяліўся Пакістан і Цэйлён, а ў 1950 г. Індыя стала незалежнай рэспублікай.

У Індыі больш як 700 розных моваў і дыялектаў, 15 моваў афіцыяльных. Найбольш пашыраная мова *гінду,* якую хоча ўрад накінуць усім, каб адкінуць ангельскую, якая пакуль што служыць адзіным спосабам паразуменьня для ўсей дзяржавы.

✳

У Індыі каля 11 міл. хрысьціянаў, а з гэтых 6 міл. 300 тыс. каталікоў. Уся маса народу належыць да рэлігіі індуізму (браманізму), 43 міл. магамэтан і малая частка будыстаў.

Першым апосталам у Індыі лічыцца Сьв. Апостал Тамаш, які быў там замучаны. Хрысьціянства пашыралася даволі памысна, але было паўстрыманае праз магамэтанаў. Партугальцы прывезьлі місіянэраў, якія пачалі новую місію. Найбольш выдатным місіянэрам быў Сьв. Францішак Ксавэры, які лічыцца II-ім Апосталам Індыі.

Цяпер Індыя мае 70 біскупаў, з якіх 45 — індусы і адзін кардынал — індус, Валерыян Грацыяс, арцыбіскуп у Бамбэі.

✳

Бамбэй вялізарны горад на берагу Арабскага мора. (Назова «Бомбэй» ад партугальскага «Бон Бай» — «Добры Заліў»). Гандлёвы горад грае ролю падобную да Нью Ёрку; 80% людзей жывуць з дня на дзень і часта галадаюць.

Вось-жа робяць некаторыя людзі закід, што Каталіцкая Царква хоча тут на Кангрэсе паказацца з цэлым гонарам і блескам, і Папа прыедзе. А будзе паглядаць на такую выставу галодны горад... Закід можа здавацца слушны, але выбраны быў Бомбэй дзеля таго, што тут каля 300 тысяч каталікоў. І Папа прыяжджае не як прадстаўнік дзяржавы Ватыкану, а як просты турысты-пілігрым і бяз ніякай помпыпарады. Хоча наведаць вялікую Азію, пазнаць вялізны народ — для далейшай магчымай місыйнай працы і такжа мае ў пляне адведаць найбяднейшыя кварталы, каб пасьля падняць плян шырокай помачы галодным.

Індыйскі ўрад вельмі ахвотна прыймае Кангрэс і Рымскага Папу. Урадовыя прадстаўнікі з самым прэзыдэнтам прыедуць у Бомбэй на спатканьне Папы і запрашаюць яго ў сваю сталіцу Нью Дэлі. Газэты наагул і нават камуністы выразілі сваю радасьць, што ўбачаць такога Госьця.

Толькі экстрэмісты паднялі пратэст супраць прыезду Папы, але прэм'ер Шастры ім адказаў, што «Індыя ведамая на ўсім сьвеце з сваей традыцыйнай гасьціннасьці, дык і ў гэтым выпадку, хоць Папа ёсьць Галавой у Каталіцкай Царкве, але ёсьць такжа Галавой Ватыканскай Дзяржавы, вось як такога мы яго прыймаем».

Каталіцкія газэты пішуць: Калі Папа візытаваў Палестыну — месца нараджэньня, жыцьця і сьмерці Гасподняй, — дык адпаведна такжа, каб адведаў Індыю — месца, да якога тасуюцца словы Хрыстовыя: «Я быў галодны, а вы Мяне накармілі». Дык і Папа перш паслаў у Індыю на 100 тысяч даляроў (і 20 тысяч на транспарт) збожжа для галодных, а пасьля паехаў сам пабачыць, якія ў Індыі патрэбы беднага народу. Трэба, каб каталікі і ўвесь сьвет ведаў, што служба Божая палягае ня так у тым, каб маліцца, ладзіць Кангрэсы і працэсіі, але больш у тым, каб аказываць міласэрнасьць найбяднейшым.

## МЭТА КАНГРЭСУ: «ЭЎХАРЫСТЫЯ І НОВЫ ЧАЛАВЕК»

Пры цяперашняй пагрозе ад атомных бомбаў трэба глыбока разважаць і зьвяртацца да Бога, шукаючы ратунку. Вось аб гэтым будуць на Кангрэсе спэцыяльныя лекцыі і малітвы да Госпада Ісуса Хрыста, каб даў людзям розум і добрую волю, выйсьці з такой небясьпекі.

Апрача таго на тры дні перад Кангрэсам кардынал Грацыяс склікае асобнае Сабраньне і Студыі аб тым, як ратаваць Індыю ад голаду. На Студыі будзе прэзыдаваць амбасадар Злучаных Штатаў Амэрыкі М. Бовлес, будуць пры-

сутныя прадстаўнікі навукі, асабліва лекары, — ня толькі з Індыі, але з усяго сьвету і ня толькі каталікі, але і іншыя хрысьціяне і нехрысьціяне.

Папа Павал VI мае намер кансэкраваць падчас Кангрэсу 5 біскупаў з пяці кантынэнтаў сьвету, бо «Папа становіцца місіянэрам», як сам сябе назваў, аб'яўляючы свой выезд у Індыю.

Адна толькі Партугалія пачулася пакрыўджанай падарожай Папы ў Індыю. Прычына такая, што Індыя захапіла даўнейшую калёнію Партугальскую ГОА, якой Партугалія валодала каля 300 гадоў. Адазваліся пратэсты да Папы з боку інтэлігентаў, а нават ад духавенства. Ніхто аднак з цэлага сьвету не падтрымаў Партугаліі, бо пара на калёніі ў чужых землях ужо мінула. Адно яшчэ бальшавікі заўзята трымаюць у руках чужыя землі, а паміж імі і нашую Бацькаўшчыну.

# Наш Дар

*(Калядная разважаньне)*

«Што дамо Табе, Хрысьце, за тое, што дзеля нас Ты стаўся чалавекам? Кожнае стварэньне прыносіць доказ сваей удзячнасьці: ангелы — сьпеў; неба — зьвязду; мудрацы — свае дары; пастухі — хвалу; зямля — пяшчэру; пустыня — яслі; а мы прыносім Табе Дзеву Маці».

Так сьпявае сьвятая Царква на вячэрні сьвята Нараджаньня Хрыстовага.

У дзень, калі мы ўспамінаем прыход на сьвет Збавіцеля, мы ня можам забыцца аб Той, якая была асаблівай Божай прыладай у гэтай вялікай тайне, аб Найсьвяцейшай Дзеве Марыі, Маці Божай. Бо калі справядлівасьць вымагае, каб мы шанавалі тых, якіх Бог ушанаваў сваім сяброўствам і любоўю, дык што-ж мы можам сказаць аб Найсьвяцейшай Дзеве, якую Ён узвысіў над усімі стварэньнямі? Як можам апісаць веліч ласкі, якая была ў ёй? Якая мова можа дастойна усхваліць Матку нашага Збаўцы?

Пры ўсім гэтым мы аднак не павінны забывацца, што Найсьвяцейшая Дзева зьяўляецца стварэньнем і, як мы, належыць да роду людзкога. Якраз дзеля гэтага ў вышэй прыведзенай песьні яна называецца дарам, які род людзкі прыносіць Хрысту. Яна ёсьць нашым дарам Богу, бо ў ёй споўніліся шматвяковыя чаканьні людзтва. Яна ёсьць дарам, бо ад яе наш Збаўца прыняў людзкую натуру. Наканец, яна ёсьць дарам, бо ў ёй мы знайходзім усё, што ёсьць найбольш прыгожага і шляхотнага ў людзкой натуры, якая поўнасьцю адчынілася для Божай ласкі.

Людзкая натура падобная да хаты з зачыненымі знутры дзьвярыма і вокнамі. Сьвятло ня можа туды увайсьці, пакуль нехта знутры не адчыніць заслонаў. Нешта падобнае здараецца ў адносінах паміж Богам і чалавекам. Стварыўшы нас свабоднымі, Бог шануе нашую свабодную волю і ня змушае нас да нічога, нават калі ходзіць аб нашае збаўленьне. Мы таксама нічога ня можам без Бога, але ад нас залежыць, каб адчыніць нашы душы і ўпусьціць туды




*Ікона Багародзіцы у белар. царкве ў Лёндане*

праменьні Божай ласкі. Такім чынам нашае збаўленьне робіцца актам «супрацоўніцтва» паміж Богам і намі.

Ёсьць дзьве галоўныя рэчы у адносінах чалавека да Бога: вера і сьвятасьць. Абедзьве яны зьяўляюцца Божым дарам, але адначасова ёсьць

немагчымыя без свабоднай згоды, без «супрацоўніцтва» чалавека. Што гэта значыць, мы можам бачыць на прыкладзе Абрагама, «бацькі ўсіх верных». Аднога разу Абрагам атрымаў загад ад Бога, каб пакінуў усё — бацькаўшчыну, сваякоў, бацькоўскі дом, — і ішоў далёка ў няведамую краіну, ня маючы нічога акрамя Божага абяцаньня, што гэтая краіна станецца ў адзін дзень собскасьцю яго і ягоных нашчадкаў. Абрагам адразу паслухаўся, ня гледзячы на тое, што ён і ягоная жонка былі старыя і ня мелі надзеі мець дзяцей. Ён паверыў у тое, што, па людзку, было няверагодным, спадзяваўся супроць спадзяваньня, як пазьней сказаў аб ім сьв. Павал, і гэтая ягоная непахісная вера залічылася яму ў справядлівасьць. Аднак гэтага недастаткова. Толькі Абрагам пасьпеў выканаць загад, як Бог прамовіў да яго зноў: «Хадзі перада мною і будзь дасканалы». Бог ёсьць бесканечна сьвяты і дзеля гэтага нічога нячыстага ці недасканалага ня можа прыблізіцца да Яго, ці дагадзіць Яму. Таму і Ісус Хрыстос ў адзін дзень скажа тым, якія сьледавалі за Ім: «Будзьце дасканалыя, як і Айцец Ваш на небе ёсьць дасканалы».

Ад Абрагама праз цэлы час Старога Запавету мы бачым цэлы рад Божых слугаў, якія, паклаўшы ўсю надзею на Бога, чакалі Ягонага вялікага абяцаньня — прыходу Мэсыяша. Кажны зь іх стараўся спрычыніцца да набліжэньня гэтага вялікага здарэньня ў меру данай яму ласкі, выконваючы Божую волю. У пэўным сэнсе мы можам лічыць Найсьвяцейшую Дзеву апошняй у гэтым радзе сьвятых Старога Запавету. Аднак яна займае асаблівае месца ў цэлым стварэньні, паколькі ў ёй «супрацоўніцтва» людзкой натуры з Богам, поўнае паслушэнства Божай волі, дасягнулі дасканаласьці, ніколі не асягнутай раней ці пазьней. Бязумоўна тут была асаблівая ласка Божая, але гэтая апошняя не зьнішчае свабоднай волі. Ласка не перашкодзіла саграшыць нашым першым бацькам. Саул, першы жыдоўскі князь, таксама адпаў ад ласкі. Мы можам даць яшчэ шмат падобных прыкладаў.

Дзеля гэтага зусім ня прыпадкова Альжбета прывітала Найсьвяцейшую Дзеву славамі: «Благаслаўлёная Ты, якая паверыла». А якая прыгожасьць душы, якая адданасьць волі Божай, адчуваецца ў словах Марыі, калі яна пачула, што мае быць Маткаю Бога: «Вось я служка Божая; няхай мне станецца паводля твайго слова».

Бог уславіў сваю пакорную служку над усе стварэньні сьвету. Яна сталася Маткаю Бога і Збаўцы Нашага Ісуса Хрыста. Сьвяты Павал назваў Хрыста другім Адамам, праз якога мы ўсе сталіся новым стварэньнем. Ужо ў другім стагодзьдзі сьв. Ірынэй назваў Найсьвяцейшую Дзеву другой Эвай, Маткаю ўсіх тых, якія жывуць у Богу. Маці Хрыста, яна зьяўляецца нябеснай маткаю ўсіх нас. Няма і нічога, чаго-б Яна не магла атрымаць ад свайго Боскага Сына. Дык прыбягайма ўсе пад яе апеку, просячы ейнага заступніцтва і малітваў, каб адзін дзень мы сталіся годнымі Валадарства Божага.

*а. А.*

# Весткі са сьвету

РЫМ. Дня 18. X. адбылася ў базыліцы Сьв. Пятра ўрачыстая кананізцыя 22 нэграў з Уганды ў Афрыцы, якія былі — паводля загаду караля Мванга — страшэнна мучаны і спаленыя за веру ў Бога — у 1885—1887 гадох.

Той кароль Мванга быў прадзедам цяперашняга прэзыдэнта Уганды.

На кананізацыі быў прысутны цяперашні віцэпрэзыдэнт Уганды як прадстаўнік ураду. Была вялікая грамада прыбыўшых з Афрыкі нэграў каталікоў, якія пялі сваей мэлёдыяй набожныя песьні пад музыку «там-там». Прысутнічаў афрыканскі кардынал Ругамбва.

Гэта першая кананізацыя чорных хрысьціянаў.

Папа Павал VI гаварыў: «Мы ня сумляваемся бачыць там спэцыяльнага прызваньня, што Афрыка ёсьць зямлёй Эванэліі». Казаў, што Царква стараецца вызваліць энэргію мясцовага народу, весьці іх да аўтаноміі і дасьпеласьці... Папа ўспомніў, што афрыканскія біскупы вельмі просяць прысылаць больш сьвятароў-місіянэраў, бо надта вялікае поля працы.

І падчас кананізацыі Павал VI аб'явіў, што зьбіраецца паехаць у Бамбэй у Індыі на Эўхарыстычны Кангрэс 2. XII. 1964 г. Значыць, Папа сам асабіста хоча стаць місіянэрам. Казаў, што ня дзеля цікавасьці, ці ахвоты да падарожы паедзе ў Індыю, але каб адчыніць Царкве дзьверы шырэй у Вялізарную Азію, дзе бязьмерныя масы народаў чакаюць Божага Слова.

*

ІТАЛІЯ — МОНТЭ КАССІНО. 25. X. Папа Павал VI прыбыў, каб пасьвяціць адбудаванае пасьля II Вялікай Вайны абацтва аа. Бэнэдыктынаў. Там у канцы вайны замацаваліся немцы і алянты цалкам разбурылі царкву і кляштарныя будоўлі — гэты «незраўнаны помнік рэлігіі, культуры, мас-

тацтва і цывілізацыі», як назваў Папа, і што такі быў «сьляпы гест ваеннага шалу».

Сьвятога Бэнэдыкта, Патрона Монтэ Кассіно, Папа назначыў Патронам Эўропы, каб усьцераглася новай вайны, якая пагражае згубай чалавецтва.

✳

МАСКВА. Упадак Хрушчова (14. X.), апрача палітычнай стараны, аб чым пішуць у сьвецкай прэсе, мае такжа і справы духовыя. Ніколі яшчэ свабода сумленьня ня была так ганебна парушаная, як за часоў «добрага Мікіты»: гэта ўжо ня толькі уціск рэлігіі, але поўны прасьлед (замыканьне апошніх цэркваў, адбіраньне дзяцей ад бацькоў для бязбожнага выхаваньня і інш. зьдзекі). А ў прапагандзе ўсё складалі адказнасьць на Сталіна і ягоны «культ асобы». Цяпер-жа новыя лідары пакрысе раскрываюць дэфэкты самога Хрушчова: падобная тактыка будзе трываць, пакуль трывае бязбожны лад камунізму.

✳

ВАТЫКАН. Перад Кангрэсам у Індыі быў раздадзены дар Папы Паўла VI бедным з амэрыканскіх запасаў пшаніцы, якую па нізкіх цэнах закупіў за суму 100 тысяч даляроў. Апрача таго амэрыканскія біскупы паслалі ў Індыю лякарствы на 50 тыс. даляраў.

✳

РЫМ. Памёр (5. X.) Генэрал аа. Езуітаў Ян Янсэнс. За яго часоў Езуіты вырaслі ад 28-мі да 36 тысяч — у працягу 18-ці гадоў. Янсэнс быў 27-мы генэрал ад Сьв. Ігнацага Ляёлы.

На Ватыканскім II-ім Саборы езуіты маюць выдатных спэцыялістаў і экспэртаў — Кард. Бэа, Дэ Любак, Рагнэр, Даніелю.

✳

РЫМ. Экумэнічныя пілігрымкі ў Ватыкане: 1) Англіканскі біскуп Др. Мэльвін із Стоквуд — 500 чал.

2) З Аўстраліі і Новай Зэляндыі: Англіканскі біскуп з Арноўд, з пілігрымкай. 3) Група каталікоў і пратэстантаў з Галяндыі пад кіравецтвам кат. сьвятара і прат. пастара.

Папа Павал VI ў прамове сказаў, што было-б пажадана, каб такія спробы сталіся трывалымі.

✳

ШКОЦЫЯ. У Эдынбургу выданы пераклад Новага Запавету супольнымі сіламі каталіцкіх і пратэстанскіх вучоных (з грэцкага арыгіналу).

✳

МАЛЬТА (300 тыс. жыхароў). У стал. горадзе, Ля Валетта, пачалі перакладаць на мальтанскую мову Стары і Новы Запавет — у 2 томах.

ФРАНЦЫЯ, гор. Мэтц. Высьвячаны на сьвятара поўспаралізаваны інвалід — з аўта-катастрофы: нярухома сядзіць на крэсьле і так служыць у шпіталі для хворых. Называецца Валентын Швэлер.

✳

ПАЛЕСТЫНА. Заложаны спэцыяльны дом для бедных пілігрымаў. Называецца «Дом Абрагама».

✳

СЫЯМ. Падчас вайны тут быў прасьлед Катал. Царквы: палілі сьвятыні, вязнілі сьвятароў і былі мучанікі за веру. Тут пануе буддызм. Але пасьля вайны сытуацыя паправілася: прасьлед паўстрыманы і нашая Царква ўжо цешыцца толеранцыяй. Найлепш разьвіваюцца катал. школы, перадусім Закону аа. Салезіянаў. 135 школаў прызнана дзяржавай. Дырэктар школы Сьв. Францішка Ксавэрага а. Гоміеро дастаў за грамадзкую працу ордэн Белага Слана.

✳

ЯПОНІЯ. Канфэрэнцыя біскупаў устанавіла — замест станавіцца на калені — паводле японскага звычаю — даваць адпаведныя, значыць, малыя і глыбейшыя японскія паклоны.

✳

АФРЫКА. КОНГО. Паміма вялікага няладу ў дзяржаве праца Катал. Царквы пакрысе разьвіваецца: ад 1960 г. выбудавана 14 новых сьвятыняў, пасьвячана 28 маладых сьвятароў. Памысна працуюць катал. школы.

✳

ПАЎДЗ. АМЭРЫКА. ЧЫЛЕ. Найдзіўнейшая краіна на сьвеце: вузкая паласа 4 300 кілям. даўжыні — горы Анды і акіян Пацыфік. У верасьні выбраны новы прэзыдэнт Эдвард Фрэй з хрысьц.-дэмакрацыі, якая моцна адхілілася ад правых і схілілася налева, абяцаўшы вялікія рэформы ў земляробстве і прамысловасьці.

Бяда толькі ў тым, што ў Паўдз. Амэрыцы перад выбарамі ўсе шмат абяцаюць, а пасьля выбараў не спаўняюць: тады нездаволеныя людзі зноў пачынаюць рэвалюцыю і край руйнуецца.

✳

БРАЗЫЛІЯ: Расказывае а. Язэп Сельскі.

Прабываў у Бразыліі некалькі месяцаў у Місіі аа. Марыянаў, якія абаснаваліся ў паўночнай частцы.

Цэлае шчасьце, што іхняе мястэчка Ностра Сэньёра да Глёрыя ляжыць на ўзвышшы — 300 мэтраў — вось паветра крыху сьвяжэйшае. У іх рэчка ня вельмі аддаленая, але купацца, паміма гарачыні, ня прыходзіцца, бо напоўненая дзівоснай тропікавай рыбай — невялікай, праўда, (як селя-

дзец), але надта кусьлівай: нападаюць, як злыя сабакі, і могуць чалавека абгрызці да сьмерці! Гадзінаў ня шмат, але кобра здараецца: яе ўкусы — сьмяротныя.

Насельніцтва да 60-ці мільёнаў. Тэрыторыя 8,500.000 квадр. кілямэтраў. Адна з найбольшых краінаў сьвету.

У штаце Сэрджіпэ, ў якім месьціцца нашая місія, жыве народ перамешаны: словам, там яшчэ творыцца народ і цяпер нельга сказаць, хто яны, Мэтысы, мулаты, крэолы — гэта мешаніна індыйцаў, нэграў і белых — галоўна партугальцаў. Вось, здаецца, сям'я — белая, аж родзіцца дзіця чорнае, ці поўчырвонае... Мова агульна прынятая — партугальская — ўжо крыху з бразылійскім дыялектам.

Рэлігія — каталіцкая, але аб гэтым трэба сказаць больш.

Найбольшае гора Катал. Царквы ў Бразыліі — брак духавенства. Зляжыліся на гэта розныя прычыны: адна з важнейшых, што прыездныя партугальцы ўважалі, што з індыйцаў і нэграў нельга браць у духавенства моладзі, бо яны занадта «маляды» народ. Сьвятароў прывозілі з Эўропы і даўней гэтага хапала. Але, як стала наяжджаць эмігрантаў усё больш і ўсе яны стараліся забясьпечыць сабе кавалак хлеба, дык справы духоўныя пачалі аставацца занядбаныя — аж пачало тварыцца паваротнае паганства: людзі рэлігійна нясьведамыя, а нават няхрышчаныя!

Вось-жа і нашая Марыянская Місія, хоць называецца вельмі прыгожа — «Нашая Паня ад Славы» (гэта — Найсьвяцейшая Дзева Марыя), то аднак працы там непачатая пушча, а місіянэраў няма! Людзі наагул добрыя і прыхільныя: жадалі-б штосьці ведаць аб Богу, а няма каму весьці апостальства: ёсьць і касьцёлы, але пустыя, бо няма набажэнства — толькі мо' раз у год даедзе здалёку сьвятар...

Нават біскуп ня мае сабе памоцніка сьвятара: сам ён і сакратар і пробашч і вікары!

Так вось жаліўся калісьці Сам Гасподзь, кажучы: «Ніва — гатовая і для жніва — жоўтая, але жанцоў няма! Прасіце тады Гаспадара, каб паслаў больш жанцоў на сваю ніву».

Ах, які жаль, калі людзі бачаць, што сьпелая, залатая пшаніца сыпецца, а ніхто не сьпяшыць ратаваць яе!...




*Друя — горад у Савецкай Беларусі, на берагу ракі Заходняй Дзьвіны, дзе ўпадае ў яе рака Друйка. Да II-ой Вялікай Вайны тут быў кляштар аа. Марыянаў пры касьцеле Сьв. Тройцы. Падчас вайны ў 1944 касьцёл быў пашкоджаны бамбежкай і спалены дах, але па вайне зара быў праведзены поўны рамонт праз рупных парахвіян, якія вельмі свой касьцёл любілі. Аднак бязбожны ўрад кляштар разагнаў і касьцёл абярнуў на склад і ганебна зьняважыў, як відаць з залучанага здымку.*

*Аб лёсе Друі замесьцім шырэйшы артыкул пасьля Новага Году.*

# БАЙКІ

*(паводле Крылова).*

## ДРУЖБА

Кацёл з гаршком падобну мелі службу,
Саюз і дружбу,
Пакуль кацёл раз нейкім сьвятам
Назваўся «Старшым Братам».

Гаршчок штодзённа ў горкім поце
У чорнай быў рабоце:
Варыў і бульбу, і капусту,
І крупнік, хоць ня тлусты.

Кацёл блішчыць — аж сьвеціць,
Гаршчок качаюць дзеці. —
Гаршчок, хоць крыўду разумее,
Сваю надзею грэе.

Кацёл ў экскурсію сабраўся,
Гаршчок там збоку прывязаўся.
Кацёл ішоў з рэклямай —
У славе самай.

Гаршчок у дзень служыў падножкам,
А ўночы быў пад ложкам. —
І вось гаршчок быў рад,
Што ехалі назад!

На тым грузавіку
Стаяў гаршчок ў кутку«
У ночы, да катла як прытуліўся,
Зусім разьбіўся.

Канец гаршка такі:
Прывезлі чарапкі.
А брат-кацёл, прыехаўшы дамоў,
Іх выкінуў далоў! . . .

✳

Якая служба,
Такая дружба:
На Брата Старшага дзівіся,
А блізка не садзіся!

## КАМАР І ПАСТУХ

Пастух улетку спаў з надзеяй на сабаку,
А гадзіна у непазнаку
Так спрытна падпаўзала,
Што пастуху над каркам сьмерць стаяла!
Жалеючы, камар так смагла яго ўцяў,
Што аж пастух ускочыў, ўстаў —
Бах! правай гадзіну зацюкаў,
А левай камара загрукаў.

Слабы, як дужаму захоча прыслужыцца,
Няхай баіцца,
Каб ня было яму з дабром,
Як з камаром!

## ПАПЯРОВЫ ЗЬМЕЙ

(Песьня).

Зьмей папяровы
Пасьля абновы
Ляцеў-шыбаў за хмары.

Зь ім матылёчак
Ляцеў кусочак —
Ня мог зьляцецца ў пары.

Зьмей кажа: «Стыдна!
Як ты агідна
Ляціш як ліст той з дрэва . . .

«А я высока
Лячу далёка —
Направа, гэй, налева!

«І так прыгожа,
Як птушка Божа,
Як зь неба каралева!»

Матыль адкажа:
«Мяне ня вяжа
Ніхто, нідзе, ніколі.

«Цябе пускаюць,
Табой гуляюць —
Ты на шнурку, ў няволі!

«Зыйдзе ахвота,
Кінуць ў балота —
Жаль мне тваёй нядолі . . . »

✳

Як ты мне міла,
Ты — радасьць, сіла,
Мая цудоўна воля ! ! !

*Вінцук Адважны*




Вёска ДАМАНАВІЧЫ - ПАЛЕСЬСЕ

## З лістоу у рэдакцыю

Вітаю аднаўленьне часапіса «Божым Шляхам» і зычу посьпеху — духовага адраджэньня нашае Бацькаўшчыны. Я атрымаў нумары за сакавік-чэрвень г.г. Прышліце мне па-ангелску ў трох паасобніках рахунак на падпіску на тры гады, і я Вам пастараюся выслаць чэк праз мой Палітэхнічы Інстытут, дзе я працую. Некалі я быў падпісаўся на гэты часапіс у айца Гарошкі, але часапіс якраз тады і спыніўся выхадам. Дзякуй.

Цяпер мяне цікавіць, што гэта за зацемка аб пісьменніку Ф. Дастаеўскім у часапісу «Вехі» за студзень 1964 г., як Вы падаеце ў хроніцы: З беларускае прэсы, на бач. 25 Вашага часапісу за травень-чэрвень. Можа можаце той нумар «Вехі» выслаць мне, а калі не, дык прынамся тую балонку з артыкулам аб Дастаеўскім.

З гары дзякую за тую фатыгу.

Хутка выходзіць з друку мая вялікая кніга мастацкае прозы «НА БЕРАГОХ ПАД СОНЦАМ». Спадзяюся, як выйдзе, даслаць Вам з просьбай, як мага шырэй апавесьціць аб ёй беларускую эміграцыю, каб распаўсюдзіць найбольш паасобнікаў і тым хоць часткава выручыць укладзеныя ў яе выданьне грошы. Кніга будзе каштаваць у Амэрыцы й Канадзе 5 даляраў, а ў іншых краінах — роўнавартасьць 4 даляраў. Кальпартэрам і распаўсюджвальнікам, вядомая рэч, будзе дадзеная зьніжка на 20 працэнтаў. Выпісваць ужо можна праз выдавецтва:

Цісну руку рэдактара і выдаўца. Зычу памысьных удачаў.

Ваш Уладзімер Глыбінны

14 верасьня 1964.

Дарагі Ойча!

Што там чуваць у Вас? Як здароўе? Дайшла да нас нядобрая навіна аб хваробе а. Чэслава. Усе Вы нам вельмі патрэбны. Працы тут ёсьць шмат. Людзі пасьля перажытага шмат забыліся, але ёсьць яшчэ такія, у якіх раны прычыняныя немцамі яшчэ не зажылі і гэтыя вельмі пабожна трымаюцца.

Нядаўна быў я ў Варшаве, зайшоў да а. Віталіса (Хамёнка). Ён яшчэ мае сілы на выезды. Мы тут у Зялёнай Гары маем некалька тысяч нашых, але з імі навязаць кантакт немагчыма, бо ім забаронена з намі гаманіць.

Дарагі Ойча, мы штодня помнім аб Вас і молім Госпада, каб захаваў Вас для Ягонага сьвятога дзела. Вельмі яшчэ хацелася-б спаткацца і папрацаваць разам на Хрыстовай ніве, але на ўсё гэта Божая воля.

Мая сям'я ўся трудзіцца: хто робіць на хлеб, а хто зьбірае навукі. Дзякуй Богу, усе здаровыя і гадуюцца добра.

Хачу шмат напісаць, але бракуе часу. Устаю а гадз. 6-ай, або й раней, а спаць іду а 11-ай і ўсё не хапае часу!

Паручаемся ўсе Вашым малітвам.

К. Касібовіч

Зялёная Гара.
23. IX. 64.

...купіў дачцы асенняе паліто. Жонка націскала, каб я сабе штосьці купіў, але я лепш — дачушцы, а сам неяк там перабядую зіму. У нас са здароўем таксама ня зусім добра, бо цешча хворая на сэрца і на цукровую хваробу, жонка наракае — штось далягае, а дачка — на нэрвы; а я, як вы ведаеце, пасьля тых войнаў і фронтаў, усё, як кажуць, вылазіць бокам, дык толькі жартую, што зямля выцягне ўсё!

З фінансамі зусім дрэнна: у жонкі праца раптам урвалася — і так — як ні адно, дык другое. Але можа штосьці палепшыцца...

Маем да Вас вялікую прозьбу: пішыце да нас часьцей.

Усе мы Вас вітаем сардэчна і просім за нас паmaliцца. Канчаем і бывайце здаровы!

Вашыя I... з Варшавы

(Увага Рэдакцыі: Характэрныя лісты прыходзяць з Усходу: каб хоць хто чым небудзь пахваліўся!).

*Дарагі Ойча Рэдактар!*

Сягоньня рана атрымаў Ваш цікавы ліст ды адразу адказваю. Выбачце, што доўга ня пісаў: папросту ня было калі пісаць, бо шмат было працы, галоўна навука, ды рыхтаваньне канцавога іспыту з фундаментальнай тэалёгіі, які я пасьпяхова здаў колькі дзён таму.

Аб сабе і сваей працы магу каратка сказаць, што я цяпер у 6-ым сэмэстры тэалягічнай навукі ў Кенігштайнскай духоўнай сэмінарыі. Прада мною яшчэ два гады да канца багаслоўскіх студыяў. Навука ідзе добра, хоць шчэ маю крыху цяжкасьці дакладна выславіць сваю думку па-нямецку. Дык і гэта з бегам часу прыходзіць.

У вольных ад навукі мамэнтах можна мяне знайсьці ў лясох, куды часта іду на прагулку. Кенігштайн — невялічкі горад недалёка ад Франкфурту — у горках гэтак званых «Таўнус-ах». Ваколіцы вельмі прыгожы. Горад заснаваны 650 год таму. Яшчэ цяпер маем рэшткі таго часу — руіны замку, ды старадаўныя дамы, вузкія вуліцы і гэтаму падобнае. Клімат і паветра асабліва добрыя і здаровыя. Кенігштайн — гэта курорт.

Але люблю ня толькі прыроду, люблю такжа і музыку і сьпеў. І ў нашай сэмінарыі маю даволі нагоды практыкаваць тыя здольнасьці.

У нас тутака ёсьць 50 студэнтаў-клерыкаў. Яны пераважна немцы з усходніх паветаў. Аднак ёсьць і студэнты з іншых народаў. Маем двух з Індыі, крыху мадзяраў, ды аднаго ўкраінца — старэйшага — 69 гадоў. Я — адзінокі беларус. Усе вельмі сымпатычныя і аказываюць пашану нашаму народу. Маю і нагоду на Багаслужбы нашага ўсходняга абраду.

Магчыма, што Вас асабліва цікавіць гэткі факт: мы маем тут прыгожы царкоўны хор, які сьпявае ўсе літургічныя расьпевы славянскага абраду. Хор таксама сьпявае нашае «Магутны Божа» па-беларуску і цяпер вучыцца пяяць беларускія калядкі. Гэткі хор ёсьць жывым доказам любові маіх калегаў да ўсходняе нашае Царквы.

Магу сказаць, што я вельмі шчасьлівы з нагоды вучыцца ў гэтай духоўнай сэмінарыі. Аднак я сам рэдка калі маю нагоду гаварыць сваей роднай беларускай мовай. Гэта крыж не малы. Чужынцы могуць быць сымпатычнымі і братэрскімі людзьмі, але хто-ж можа разумець беларускі характар як не самыя беларусы? Часта думаю аб сваім народзе. Штодзённа ідуць мае маленьні да Нябеснага Айца, каб багаславіў наш народ, нашу Бацькаўшчыну. Малюся асабліва за моладзь, бо гэта прышласьць народу.

Астаюся, шчыра адданы ў Хрысьце.

Ваш Р. Патры-Тамушанскі

## ЗАЛАТЫЯ ДУМКІ:

*Што паможа не напівацца віна, але ўпівацца гневам?*

Сьв. Геранім

(З кніжкі «*Перад Божымі вачамі*» — *Аб малітве.* — а. Gaston Courtois

*ХРЫСТОС: Калі молішся, маліся са Мною!*

*Твая малітва нічога ня значыць, калі ня злучана з маею.*

*Лёгка маліцца са Мною: Я ня спыняюся.*

*«...каб у-ва ўсім славіўся Бог праз Ісуса Хрыста, Якому слава і сіла на векі вякоў. Амін». (З Сьв. Пятра 4,11).*

*Вы нічога ня можаце без Мяне.*

*Я нічога не магу без вас.*

*Разам маемо збавіць сьвет: разам маемо вярнуць супакой, ратаваць, аздаравіць, зрабіць Божым.*

*Ты сам з сябе — нішто і нічога ня можаш — але справа, да якой Я цябе клічу, вялізарная — гэта ёсьць справа* ЗБАЎЛЕНЬНЯ ЧАЛАВЕЦТВА.

*Тое, чаго ты ня зробіш, ня зробіць за цябе ніхто!*

*Як-жа шмат ёсьць такіх, якія ня ўмеюць, ня маюць адвагі, або ня хочуць узьнесьці вачэй да Бога!*

*Мы маемо маліцца за сябе, маліцца ў лучнасьці з усімі, якія моляцца, маліцца ад імя тых, што ня моляцца.*

# ДА ВЕДАМА ЎСІХ БЕЛАРУСАЎ, АМАТАРАЎ ПРЫГОЖАГА БЕЛАРУСКАГА СЛОВА

Ужо выйшла й прадаецца новая кніга беларускіх апавяданьняў і аповесьцяў «НА БЕРАГОХ ПАД СОНЦАМ», напісаных вядомым беларускім пісьменікам і навукоўцам, Уладзімерам Глыбінным.



*Праф. Уладзімер Глыбінны*

Гэтую кнігу мастакае прозы складаюць тры вялікія разьдзелы:

I. Водгульле Бацькаўшчыны й чужыны

II. Амэрыканскія навэлі

III. Прыгоды Лявона Баровіча

Чытач абы якога веку знойдзе ў кнізе цікавы й памастацку апрацаваны матар'ял для чытаньня. Дзеці будуць захапляцца дзіўнымі прыгодамі жартаўніка Лявона. Моладзь будзе з затоеным дыханьнем чытаць аб рамантыцы маладога каханьня Ліны Бэрн, маладой Амэрыканкі. Аматар прыроды пройдзе з гэроем па берагох пад сонцам і сутыкнецца з дзівамі, разьлітымі ў прыгажосьці навакольнага сьвету. Уцякач з забранага краю знойдзе выяўленьне свае настальгіі ў абразах адтворанае ў творчым уяўленьні айчыны. Трагічныя сытуацыі гарманійна палучаныя тут з рамантыкай вандровак. Разнастайныя праявы жыцьця знайшлі ў зборніку «НА БЕРАГОХ ПАД СОНЦАМ» адлюстраваньне праз прызму душы й гарачага сэрца гэрояў, іх жарсьцяў, мрыяў і ўяваў.

Кніга каштуе ў Амэрыцы й Канадзе 5 даляраў, а ў іншых краінах роўнавартасьць 4 даляраў. Выпісваць можна праз прадстаўніцтвы газэты «Бацькаўшчына», часапіса «Божым Шляхам», Беларускі Кіёск у Брукліне, сп. А. Маркевіча ў Канадзе, а таксама безпасярэдна праз выдавецтва:

Byelorussian-American Scientific and Literary Center
29 Mellon Avenue
Troy, N. Y., 12180
U.S.A.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Сп. Д. А. у Лёндане: Вельмі дзякуем за прысланы артыкул! На наш клопат справа «Ў абароне памяці П. XII» ўжо апозьненая і цяпер мала хто цікавіцца і ўскашаць яе ня варта. — Затое просім даваць нам свае ўспаміны аб беларускіх сьвятарох. Вы пэўна заўважылі, што мы пачалі друкаваць такія памяткі (Абрантовіч, Цікота, Шутовіч) і гэтага ад нас дамагаюцца Чытачы.

Др. П. Г. Атрымалі. Дзякуем за спачуваньне і за прысланыя весткі.

Сп. I. К. з Нью Ёрку: Дзякуем за пісьмо! 10$ мы палічылі за кніжкі і 1$ за БШл. Прыйміце ад нас спачуваньне ў непаводзінах і ў не здароўі фаміліі.

Др. Я. М. з Аўстраліі: Дзякуем за фото, якое ілюструе рэлігійныя адносіны ў нашых старонах. Дзякуем за ахвяру на «фонд» — £ 10.

А. Б. Чыкаго: Дзякуем за ліст і памяць аб нашых патрэбах: мы адразу дагадаліся, куды накіраваць прысланае нам перад летам.

Пав. а. М. Урбановіч: Марыянаполіс, Конн. Цешымся, што вашае здароўе паправілася: просім пісаць да нас аб вашых падзеях і паводзінах.

Сп. Я. Ч. у Чыкаго: Вашую заўвагу мы прынялі да ведама і да сэрца: пастараемся паправіцца. Напішыце, калі ласка, у Рэдакцыю!

## З БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЫ

*«Сяўбіт»*, 1964, Лістапад-Сьнежань, н. 41 (7).

Прыгожая Калядная Песьня «НОЧКА ЦІХАЯ». — Артыкул «Беларусы ў сьвятле праўды» Кс. Др. Я. Тарасэвіча: гэта ёсьць простае, але вельмі паважнае разважаньне аб праўдзе. «Чалавек створаны для праўды... без яе яму жыцьцё ня ўзмогу».

«БЕЛАРУСКІ ГОЛАС». Кастрычнік, н. 121.

Моцны і лягічны артыкул: «Свяшчэнныя граніцы... Вестка аб агульным сходзе Правасл. Царквы ў Адэляйдзе — ў Аўстраліі. У пастанове трапная заўвага: «Царква прабачае ўсім і заклікае яшчэ раз да сьвятыні Беларускага Народу».

«НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ», 15 Кастрычніка 64. н. 16 (18). Нью Ёрк.

Тут даецца бесстаронны «Агляд савецкага друку», які паказывае штодзённае жыцьцё ў Сав. Беларусі. Асабліва моцным доказам зьяўляюцца параўнаўчыя цэны найважнейшых прадуктаў у Маскве і Нью Ёрку.

## ЖАРТЫ:

Паводле савецкага камунікату: «Хрушоў адмовіўся ад месца з прычыны хваробы».

Паводле амэрыканскага камунікату: «Хрушчоў адмовіўся, бо ўжо сам пачаў верыць у тое, што гаварыў, а таварышы гэтага дальш сьцярпець не маглі».

*

У калгасе Чырвоны фартух выняткова было шмат вучоных людзей. Вось яны на зборцы пастанавілі, каб увесь калгас адрокся ад Бога: пачалі зьбіраць подпісы. Але стары пастух Захар ніяк не паддаваўся. Казаў:

— Калі вы ўсе разумныя падурнелі, дык пазвольце хоць мне дурному астацца разумным.

Дык мусілі яго так пакінуць.

## ЛЕКЦЫЯ ГЕАГРАФІІ:

БЕЛАРУСЬ ляжыць у самым цэнтры-сэрцы Эўропы, але Эўропа аб гэтым ня ведае. А самі Беларусы ці ведаюць?

ЧАМУ на граніцы з Польшчай так часта паўтараюцца назовы «БЕЛЫ»? Белавежа, Беласток, рэчка Белая (прасякае Беласток), пасьля Бельск, Бяла (Падляска)... Па рацэ Бобр ідуць вялікія лугі: нічога там «белага» няма, а называюцца «Белі».

---

## КНІЖКІ Ў РЭДАКЦЫІ:

а. Я. Гэрмановіч — Успаміны — «Кітай-Сібір-Масква»

І. Н. — Лемантар.

Вінцук Аважны — Сучасная Казка — «Князь і Лапаць»

Кс. К. Стэповіч — Голас Душы.

а. Леў Гарошка — Св. Еўфрасіня-Прадслава Полацкая.

Васіль Друя — Ты і Яна.

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

РЭДАКЦЫЯ ветліва прыпамінае ДАРАГІМ ЧЫТАЧАМ, што першыя 2-3 нумары «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» былі высыланыя як рэклямныя. Аднак значная частка нашых СУРОДЗІЧАЎ дабраахвотна прыслала аплату, зашто вельмі дзякуем!

Далей просім уважаць наступныя нумары «Божым Шляхам» як платныя і ласкава высылаць нам падпісную плату.

Грошы просім высылаць або на адрас РЭДАКЦЫІ, або на адрасы нашых КАЛЬПАРТЭРАЎ, як пададзена на вокладцы часапісу. — Хто высылае грошы ў лістох, ведама, крыху рызыкуе, але ангельская почта акуратна аддае лісты цэлыя і наагул грошы тут не прападаюць.

Чытачы, якія перасылалі нам свае заўвагі, просьбы ці жаданьні, маглі заўважыць, што Рэдакцыя ахвотна прыймае да сэрца іх патрэбы і стараецца ўсё выканаць паводле магчымасьці. За добрае слова і помач шчыра дзякуем! Мусімо адзначыць, што ў палітычныя спрэчкі мяшацца ня будзем, на лаянкі не адказваем і артыкулаў палемічных прыймаць ня можам.

Жадаем упэўніць Чытачоў, што наш часапіс — пры Божай ласцы — будзе выходзіць бяз перапынку і без спазьненьня.

ДАРАГІМ ЧЫТАЧОМ жадаем ад Госпада Бога ўсяго найлепшага!

РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

